# ...ЬШЭВІЦКІ ДРУК

**ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:**



МАЙ 9
1934 г.

Журнал ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б газ. „Звязда"

# Аб рабоце цэнтральных газет з рабселькорамі і пісьмамі працоўных

## ПАСТАНОВА БЮРО ЦК КП(б)Б

ЦК КП(б)Б адзначае аграмадны рост палітычнай актыўнасці рабселькораў, што па цвярджаецца павялічваючымся прытокам у цэнтральны і нізавы друк карэспандэнцый і пісем працоўных па ўсіх пытаннях социялістычнага будаўніцтва.

Побач з гэтым ЦК адзначае нездавальняючае скарыстанне гэтай узросшай актыўнасці рабселькораў.

Газеты арганізацыйна не замацоўваюць росту актыўнасці рабселькораў. Слаба кіруюць рабселькорамі. Яшчэ не зжыт фармалізм у рабоце цэнтральных газет з карэспандэнцыямі рабселькораў і з пісьмамі працоўных.

Рэдакцыі і парткомы газет «ЗВЯЗДА», «РАБОЧИЙ», «КАЛГАСНІК БЕЛАРУСІ», «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА» гэтаму важнейшаму і адказнаму ўчастку сваёй работы не ўдзялялі неабходнай увагі, у рэзультаце чаго рашэнне ЦК КП(б)Б ад 16 красавіка 1933 года і ўказанні камісіі па чыстцы партыі не выкананы. Дагэтуль не была ўстаноўлена адказнасць аддзелаў за пісьмы рабселькораў, у выніку чаго карэспандэнцыі рабочых і калгаснікаў перасылаюцца з аддзела ў аддзел і ў архіў без рэагавання, што з'яўляецца рэзультатам груба-фармальных адносін рэдакцый газет «Звязда», «Рабочий» і інш. да пісем рабочых.

У мэтах неадкладнага знішчэння ўказаных недахопаў Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

### 1

Ускласці персанальную адказнасць за работу з рабселькорамі на рэдактароў газет і за работу з пісьмамі рабселькораў — на намеснікаў рэдактароў газет, а ў аддзелах — на загадчыкаў аддзеламі. Пры газетах «Звязда» і «Рабочий» арганізаваць аддзелы па рабоце з рабселькорамі. Абавязаць рэдактароў цэнтральных, палітаддзельскіх і раённых газет сістэматычна праводзіць масавую работу з рабселькорамі і перыядычна рабіць справаздачу перад імі, з удзелам пракуратуры, аб скарыстанні рабселькораўскіх заметак і пісем працоўных.

### 2

Агульнае кіраўніцтва рабселькораўскім рухам у БССР ускласці на рэдакцыю «Звязды».

### 3

Абавязаць ГК і РК КП(б)Б у адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б ад 16 красавіка 1933 года знімаць з работы, хто фармальна і бюракратычна адносіцца да расследвання і рэагавання на пісьмы працоўных і карэспандэнцыі рабселькораў. Устанавіць тэрмін расследвання і дачы адказу на паступаючыя ў раён пісьмы, як правіла, не больш 10 дзён.

### 4

Даручыць тав. Кузьміну забяспечыць нечарговы разгляд усіх спраў аб несвоечасовым рэагаванні на карэспандэнцыі рабселькораў і пісьмы працоўных.

### 5

Даручыць рэдактарам цэнтральных газет разам з гаркомамі партыі — Менск, Віцебск, Гомель — падабраць і вылучыць рабселькораў на работу ў рэспубліканскі друк.

### 6

Абавязаць ГК і РК КП(б)Б, палітаддзелы рэдактароў газет дэкаднік друку гэтага года правесці пад кутом гледжання максімальнага ўзняцця работы з рабселькорамі і забеспячэння беражлівых і ўважлівых адносін да кожнай заметкі і да пісем працоўных.

### 7

ЦК прапануе правесці дэкаднік пад кутом гледжання ўмацавання сувязі друку з масамі, узмацнення дзейснасці пісем працоўных і паляпшэння кіраўніцтва рабселькорамі, што павінна стаць асноўным зместам правадзімага па БССР з 5 па 15 мая дэкадніка друку. Рэдактарам газет умацаваць аддзелы пісем палітычна-кваліфікаванымі і арганізацыйна-падрыхтаванымі работнікамі.

### 8

Даручыць аддзелу культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б арганізаваць праверку выканання данай пастановы з прадстаўленнем рэзультатаў праверкі на бюро ЦК.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

МАЙ 1934 г. № 9

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Выходзіць 2 разы ў месяц

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Савецкая, 63

# Поспехі пасеўнай замацаваць на ўборачнай

Пад знакам масавага соцыялістычнага спаборніцтва калгасных мас разгарнулася веснавая сяўба гэтага года. Мільёны калгаснікаў пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый, палітаддзелаў працавалі і працуюць на палях сяўбы з небывалым уздымам. Лепшыя людзі калгаснай вёскі крок за крокам, чэснай працай упарта заваёўваюць для мільёнаў працоўных заможнае жыццё.

Палітаддзельскі стыль канкрэтнага аператыўнага кіраўніцтва ўсвоен многімі партыйнымі арганізацыямі. Аб гэтым з усёй яснасцю сведчаць лічбы нашых перамог на сяўбе.

На 15 мая 1932 г. па БССР было засеяна 245.560 гектараў, або 9,1 проц.

На 15 мая 1933 г. па БССР было засеяна 1.008.111 гектараў, або 39,3 проц. плана.

На 15 мая 1934 г. па БССР засеяна 2.218.322 гектары, або 85,9 проц.

Летась ні адзін з раёнаў рэспублікі к 15 мая не закончыў сяўбы. Сёлета ўжо звыш 20 раёнаў выканалі план яравой сяўбы.

Новыя соцыялістычныя адносіны перадавых людзей калгаснай вёскі да працы, разгорнутае соцспаборніцтва паставілі перад нашым друкам, асабліва палітаддзельскім і раённым, новыя задачы **арганізацыі ўзросшай актыўнасці калгасных мас.**

Многія раённыя і палітаддзельскія газеты шчыльна падыйшлі да выразшэння гэтай задачы. Выязныя рэдакцыі на палях, тысячы сігнальных лістовак, выданых нашымі газетамі па канкрэтных фактах барацьбы за якасць і тэмпы сяўбы, новыя формы канкрэтнай праверкі выканання прынятых у соцыялістычных дагаварах абавязацельстваў брыгадамі, звеннямі і калгасамі адыгралі велізарную ролю ў забеспячэнні поспехаў сяўбы.

Аднак, дасягнутыя поспехі з'яўляюцца толькі пачаткам барацьбы за ўраджай. Было-б найгоршай маніпаўшчынай, ганебнай для большэвіка, хоць-бы на хвіліну супакоіцца на дасягнутых поспехах. Самым небяспечным зараз у барацьбе за высокі ўраджай з'яўляецца імена дэмабілізацыйны настрой, настрой «міжпар'я».

Кожны дзень, кожную хвіліну трэба поўнасцю скарыстаць для разгортвання самай энергічнай барацьбы за ўраджай. Сканчэнне сяўбы ў бліжэйшыя дні, праполка яравых і азімых пасеваў і гаролаў, акучванне прапашных культур, знішчэнне сельска-гаспадарчых шкоднікаў, апрацоўка папараў і ўздым цалінных земель, нарэшце, падрыхтоўка да ўборкі — усё гэта непарыўныя звенні большэвіцкай барацьбы за ўмацаванне калгасаў, за высокую вагу працадня, за заможнае жыццё калгаснікаў.

Было-б няправільным думаць, што барацьба са стратамі ўраджаю пачынаецца толькі з часу ўборкі. Па сутнасці гэта барацьба пачалася ўжо зараз. Кожны непраполаны гектар, кожнае нявырванае

зелле на палях наносіць вялікія страты ўраджаю.

**Галоўнае на прапалцы — арганізацыя працы.** Газеты павінны ўлічыць памылкі мінулага года, калі засеяныя палі абязлічваліся, брыгады распадаліся, прапалка праводзілася скопам. Задача нашага друку, асабліва зараз—адразу пасля сяўбы паставіць пытанне аб замацаванні ўчасткаў за брыгадамі, якія іх засявалі, укараніць у свядомасць кожнага калгасніка, што ад павышэння або паніжэння ўраджаю на участку яго брыгады залежыць вага яго працадня.

Газеты ў барацьбе за высокі ўраджай павінны яшчэ раз шырока папулярызаваць рашэнне ўсебеларускай вытворчай нарады калгасных брыгадзіраў: «каб за добрую работу, за высокі ўраджай брыгадзе налічвалі 15-20 проц. працадзён і змяншалі адпаведна колькасць працадзён за дрэнную работу».

Поспех прапалкі рашае звяно, якое складаецца з 3-4 чалавек і якому адводзіцца асобны загон. Такія звенні павінны быць безадкладна выдзелены ва ўсіх брыгадах. Пад іх наглядам павінен ўсё лета знаходзіцца прымацаваны ўчастак. Трэба максімальна ўзняць зацікаўленасць кожнага ўдзельніка звяна ў якасці работы. Таму неабходна заахвочваць увядзенне на прапалцы мелкагрупавой і індывідуальнай здзельшчыны. На прапалцы, як і на сяўбе, павінны працаваць інспекцыі якасці.

Газета, якая не здолее канкрэтна арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва гэтых звенняў, не здолее ўзначаліць гэта спаборніцтва, не зможа наладзіць паказ лепшых прыкладаў работы, не выканае сваёй ролі арганізатара мас на барацьбу за высокі ўраджай.

**Яшчэ і яшчэ раз трэба на старонках газет шырока папулярызаваць пастанову ўсебеларускай вытворчай нарады калгасных брыгадзіраў аб узняцці ўраджайнасці:** «Намечаную ў сярэднім па БССР ураджайнасць нашых палёў у гэтым годзе: па жыту — 9,6 цэнтнераў з гектара, пшаніцы азімай—11 цэнт., пшаніцы яравой—9,5 цэнт., ільнасемі — 3 цэнт., ільнавалакну—3 цэнт., аўсу — 9 цэнт., ячменю — 10,5 цэнт., каноплях —3 цэнт., па каноплях-валакну — 3,8 цэнт., бульбе — 110 цэнт. мы абавязваемся выканаць з ліхвай».

**Своечасовы ўздым папараў мае велізарнейшае гаспадарчае значэнне.** У сваім пісьме брыгадзіры Мілясць-Куракінскай МТС пісалі: «Навучымся ўсё рабіць у свой час». Малейшае спазненне з папарамі і прапалкай зніжае ўраджайнасць, срывае ўсе ажыццяўляемыя мерапрыемствы ў барацьбе за заможнае жыццё. Мы маем сёлета ўсе ўмовы, каб сапраўды «ўсё рабіць у свой час». Амаль на месяц раней мінулага года асноўныя раёны рэспублікі сёлета закончылі сяўбу. Арганізаваць масы калгаснікаў на своечасовае і правільнае скарыстанне вызваленай жывой і механічнай цягавай сілы— задача нашага друку.

З усёй сур'ёзнасцю трэба падыйсці да якасці ворыва папараў. І тут, як і на сяўбе і прапалцы, рашаючую ролю павінны адыграць інспекцыі якасці.

Неадлучнай часткай работы па ўздыму папараў з'яўляецца ўздым цаліны. Велізарнае палітычнае і народна-гаспадарчае значэнне гэтай справы з усёй паўнатой адзначыў у сваёй прамове на XVII з'ездзе ВКП(б) таварыш **Сталін.**

**ЕССР павінна сёлета ўзняць 115 тыс. гектараў цаліны, пералогаў,** распрацаваць хмызнякі, асушыць балоты, паставіць на службу соцыялістычнаму земляробству новыя дзесяткі тысяч гектараў высока-ўраджайнай зямлі.

Нашы калгасы ўжо настолькі выраслі і арганізацыйна ўмацаваліся, што вырашэнне гэтай задачы не складае для іх асаблівых труднасцяй. У Барысаўскім раёне калгас «Большэвік», Бычанскага сельсовета, сваімі ўласнымі сіламі сёлета ўзняў і засеяў 40 гектараў цаліны, прыступае да асушкі вялікага зямельнага масіва. Калгас «Колас,» Магілеўскага раёна, ужо другі год збірае высокія ўраджаі з асвоеных лядаў.

Што-ж зрабіла газета **«Комунар Магілеўшчыны»,** каб на гэтых канкрэтных узорах узняць масу калгаснікаў на асваенне новых зямель?

На вялікі жаль, нічога. Пухавіцкая і старобінская раённыя газеты дагэтуль не паднялі пытання, не змаглі мабілізаваць ярасць калгасных мас супроць шкоднiцкага разбурэння меліярацыйных пабудоў, супроць забалочвання ўжо асушаных вялікіх зямельных масіваў.

**Асваенне новых зямель для БССР адыгрывае рашаючую ролю для ўвядзення правільных севазваротаў,** для стварэння магутнай кармовай базы для со-

цыялістычнай жывёлагадоўлі. Аднак, тэмпы ўздыму цаліны ў нас вельмі нізкія. У гэтай справе мы значна адстаем ад спаборнічаючай з намі Заходняй вобласці. Газеты з усёй уласцівай бальшэвіцкаму друку напорыстасцю і энергіяй павінны ўключыцца ў барацьбу за ажыццяўленне пастаўленай партыяй і ўрадам задачы—асвоіць 115 тыс. гектараў цалінных зямель.

Задачай сёнешняга дня з'яўляецца спалучэнне работы па ўздыму цаліны і папараў з безадкладным разгортваннем падрыхтоўкі да ўборкі ўраджаю.

Уборка гэтага года ўскладняецца тым, што азімыя і яравыя будуць саспяваць амаль у адзін і той-жа час. Прыблізна ў гэты-ж час трэба будзе пачынаць церабленне ільну. Патрабуецца энергічная барацьба за ўборку без страт. Адначасовае саспяванне большасці культур патрабуе максімальна-сціслых тэрмінаў уборкі і абмалоту. Інакш няўхільны вялікія страты, зрыў дасягнутых поспехаў на сяўбе. Каб унікнуць гэтага, трэба зараз-жа ўзяцца за ўсебаковую падрыхтоўку да ўборкі.

Правядзеннем масавых рэйдаў праверкі рамонту і завозу машын, работы заводаў сельска-гаспадарчых машын, гатоўнасці трактарнага парку, жнеярак, малатарань, асабліва складаных, раённы і палітаддзельскі друк павінен арганізаваць увесь нізавы друк, усю армію рабселькораў на правядзенне ўборкі без страт.

**Лозунг — убраць ураджай без страт — павінен стаць вядучым у рабоце ўсяго нашага друку, пакуль апошні колас, апошняя бульбіна не будуць звезены з поля.**

Першым этапам уборачнай з'яўляецца касьба. Недаацэнка ўсёй важнасці касьбы, малейшае яе зацягненне можа адбіцца не толькі на якасці ўбранага сена, але і на ўсім далейшым ходзе барацьбы за сціслыя тэрміны ўборкі.

У барацьбе за своечасовае правядзенне ўборачнай наш друк абавязан усямерна замацаваць той пералом у адносінах калгаснікаў да калгаснай працы і калгаснай уласнасці, якога мы дабіліся ў гэтым годзе. Падрыхтоўка да ўборачнай павінна яшчэ больш умацаваць калгасную брыгаду. Газеты павінны дабіцца таго, каб убіраць па меры саспявання культур на асобных участках, не чакаючы агульнага саспявання той ці іншай культуры на ўсёй плошчы.

Людзі загадзя павінны быць расстаўлены па звеннях так, каб найбольш заахвочваць кожнае звяно і кожнага ў паасобку калгасніка ў лепшай уборцы. Дагавары па соцспаборніцтву павінны быць таксама загадзя абгавораны і прыняты ў звеннях і брыгадах, каб з самага пачатку ўборкі ўзняць яшчэ больш высокую хвалю спаборніцтва.

Летась палітаддзельскі і нізавы друк высунуў шмат новых форм барацьбы за ахову ўраджаю. Дазоры высокага ўраджаю, комсамольскія і піонерскія пасты, вылучэнне лепшых, сумленных калгаснікаў у якасці аб'ездчыкаў і вартаўнікоў— усе гэтыя і многія іншыя формы аховы ўраджаю павінны быць разгорнуты яшчэ шырэй сёлета. Тут для нашага друку — шырокае поле разгортвання ініцыятывы, самадзейнасці і арганізацыі актыўнасці мас.

**Уборачная кампанія з'яўляецца адказнейшым этапам класавай барацьбы.** Класава-варожыя элементы імкнуцца звесці на нішто нашы поспехі ў правядзенні сяўбы, у барацьбе за высокі ўраджай. Таму асабліва высокай павінна быць зараз рэволюцыйная пільнасць нашых газет. Умець своечасова выкрыць спробы кулака сарваць паспяховае правядзенне ўборкі, раскрасці калгасны ўраджай, умець узняць ярасць мас супроць кулацкіх шкоднікаў, супроць лодыраў і бракаробаў — вось што патрабуецца ад газеты ў яе барацьбе за ўборку ў тэрмін, за ўборку без страт.

У спаборніцтве з Заходняй вобласцю БССР на сяўбе заняла першае месца. Задача ўсяго нашага друку — далейшым разгортваннем спаборніцтва, канкрэтнай аператыўнай работай дапамагчы партарганізацыі заваяваць для БССР першае месца ў Совецкім Саюзе па лепшаму правядзенню ўборкі, па своечасоваму выкананню хлебапаставак, вывесці БССР у рады ордэнаносных рэспублік.

А. ЦЫПІНА

# Сур'ёзна, глыбока, сістэматычна прапагандаваць рашэнні з'езда

«Многія рэдактары не зразумелі значэння прапаганды рашэнняў XVII з'езда, прабавалі абмежавацца адным-двума артыкуламі, некалькімі шапкамі з упамінаннем аб з'ездзе, выпадковымі падборкамі і т. д. Прапаганда патрэбна значна больш сур'ёзная, прадуманая. Яна павінна ставіць сваёй задачай мабілізацыю масы на выкананне рашэнняў з'езда... Прапаганда гэтых рашэнняў разлічана на многія месяцы, бо ўсё буйнейшыя, прынцыповыя палажэнні з'езда трэба растлумачыць кожнаму працоўнаму».

Гэта ўказанне т. **Стэцкага** адносіцца да ўсяго друку, у тым ліку і да друку БССР.

11 сакавіка была апублікавана пастанова ЦК ВКП(б) «аб асвятленні вынікаў XVII партз'езда газетамі».

Вялікая частка раённых газет не зрабіла для сябе ніякіх вывадаў з гэтай пастановы. Праўда, пасля рашэння ЦК ВКП(б) некаторыя газеты заварушыліся. Час-ад-часу на старонках газет стаў з'яўляцца прапагандысцкі артыкул, заметкі аб ходзе прапрацоўкі рашэнняў з'езда ў нізавых партыйных арганізацыях.

Але прайшло некалькі часу, і газеты зноў забылі аб сваёй **асноўнай задачы:** матэрыялы аб ходзе прапрацоўкі рашэнняў з'езда зніклі са старонак газет. Большасць раённых газет не зразумела, што прапаганду рашэнняў XVII з'езда партыі нельга весці ў парадку кампаніі, што давядзенне гэтых рашэнняў да кожнага камуніста, беспартыйнага рабочага, калгасніка патрабуе доўгай, сістэматычнай, штодзеннай работы.

Як трэба арганізаваць прапаганду рашэнняў партз'езда? Ясны адказ на гэта пытанне дае апошняя пастанова ЦК ВКП(б) «Аб прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда партыі».

**«ЦК ВКП(б) устанаўляе, што ў некаторых краях і абласцях глыбокае вывучэнне рашэнняў XVII партз'езда падмяняецца паказной шуміхай і фармальным зазубрываннем асобных палажэнняў. Сур'ёзная вучоба падмяняецца спартыўным азартам, арганізацыяй «палітбаёў», «палітаблаў», «палітвіктарын», «палітлатэрэй», «палітвудачак» і т. д. Пашыраюцца стандартныя пытанні для правядзення палітбаёў, часамі абсалютна няграматныя, выпускаемыя «партгабінетамі» без прагляду і зацвярджэння культпропамі і парткомамі. Партыйцаў прывучаюць даваць шаблонныя адказы на загадзя распаўсюджваемыя шаблонныя пытанні»** — адзначана ў пастанове ЦК.

Гэтыя факты скажэння прынцыпаў бальшэвіцкай прапаганды мелі месца і ў радзе раёнаў БССР (Крычаў, Бабруйск, Магілеў). У Крычаве, напрыклад, на цэментным заводзе праводзілі палітвудачку. Адказаўшыя добра на пытанні «выуджвалі» партрэт Сталіна і... скрутак цукерак (!!!). Дрэнна адказаўшыя «выуджвалі»... брудны, стоптаны лапаць. А крычаўская раённая газета **«Соцыялістычны шлях»** праходзіць міма гэтага недапушчальнага апашлення прапаганды гістарычных рашэнняў з'езда. У Сенненскім раёне за добрае ўсваенне даклада т. Сталіна прэміравалі па 10 руб. А сенненская газета **«Комунар»** спакойна штампуе пастанову камісіі па правядзенню палітэкзамена аб гэтым прэміраванні.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 21 красавіка расцаніў гэтыя факты, як **«недапушчальныя, прыніжаючыя ўсё аграмаднае значэнне рашэнняў з'езда і даклада т. Сталіна», як «вульгарызацыю метадаў распрацоўкі рашэнняў з'езда».**

Не паказная шуміха і фармальнае зазубрыванне, а **сур'ёзная вучоба, глыбокае вывучэнне** рашэнняў з'езда і даклада тав. Сталіна ў партыйных школах, гуртках —вось што патрэбна.

Партыйная школа — асноўная форма прапаганды ленінізма выпала з поля зроку газет. У радзе раёнаў сетка партыйнай асветы прадастаўлена са-

мой сабе, інструктары райкомаў не займаюцца работай партшкол, гурткоў.

ЦК КП(б)Б адзначыў, што «рад партарганізацый (Клічаў, Жлобін, Рэчыца, Лёзна, Талачын), не гледзячы на рашэнне бюро ЦК КП(б)Б ад 11 сакавіка, яшчэ да гэтага часу не разгарнулі паглыбленай работы па вывучэнню рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) сярод комуністаў, комсамольцаў, беспартыйных рабочых і калгаснікаў. Сетка партасветы ў Клічаве, Талачыне, Жлобіне, Лёзне ў сувязі з наступленнем летняга перыяда амаль згарнула сваю работу. Школы і гурткі ў большасці распаліся».

Такое становішча з партыйнай асветай абавязвала ўсе раённыя газеты, і ў першую чаргу газеты гэтых раёнаў сур'ёзна заняцца праверкай і асвятленнем работы партыйных школ, гурткоў. А між тым і лезненская, і талачынская, і іншыя газеты да гэтага часу не заняліся яшчэ работай сеткі партыйнай асветы. Ад выпадку да выпадку з'яўляецца на старонках газет адна-дзве фіксатарскія заметкі, рэдка падборка аб рабоце партыйных школ. Прычым асноўныя пытанні работы школ, гурткоў, **якасць прапрацоўкі** рашэнняў з'езда, **якасць усваення,** увязка прапрацоўкі гэтых рашэнняў з практыкай, з канкрэтнымі задачамі данага прадпрыемства, калгаса, соўгаса, з практычнай работай слухачоў выпадае з гэтых заметак. Гэта таму, што газеты не звязаны арганічна з школамі, гурткамі, з прапагандыстамі. А без гэтай сувязі, без **сістэматычнай** праверкі работы школ, прапагандыстаў газета не зможа па-сапраўднаму асвятляць ход прапрацоўкі рашэнняў з'езда, не зможа выкрыць своечасова недахопы ў рабоце школ, асобных прапагандыстаў, не зможа зрабіць вопытам лепшых прапагандыстаў здабыткам усіх партшкол.

Прапагандыст, кіраўнік партшколы, гуртка павінен стаяць у цэнтры ўвагі газет. Значная частка прапагандыстаў у раёнах не мае яшчэ належнай тэарэтычнай і метадычнай падрыхтоўкі. І таму асабліва значэнне мае дапамога прапагандысту.

Своечасова ўказаць прапагандысту на недахопы ў яго рабоце, дапамагчы яму падрыхтавацца да занятка—абавязак газеты. «Куток прапагандыста і слухача», арганізацыя на старонках газет кансультацыі для прапагандыстаў, абмену вопытам іх работы, разбор заняткаў прапагандыста, паказ таго, як ён рыхтуецца да заняткаў—дзейсныя формы гэтай дапамогі.

Газета абавязана шырока паказваць работу інструктароў райкома, пярвічных партарганізацый па кіраўніцтву партшколамі і гурткамі, прапагандыстамі, паказваць, як усвоілі рашэнні XVII з'езда, як працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню асобныя комуністы.

Статут партыі патрабуе ад кожнага комуніста «нястомна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над усваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі, растлумачваць іх беспартыйным масам».

Той, хто не працуе над сабой, не вывучае важнейшых рашэнняў партыі, — той не выконвае аднаго з асноўных пунктаў статута партыі.

Умець практычна праводзіць рашэнні з'езда на сваім участку работы, у сваім цэху, брыгадзе, у сваім калгасе — вось што патрабуецца ад комуніста. Так павінны газеты ставіць пытанне.

«Большэвік—не школьнік, ён выхоўваецца палітычна, яго школьная вучоба злучаецца з палітыкай і практыкай штодзённай барацьбы» **(Кагановіч).**

Вось чаму ў рабоце па асвятленню ходу прапрацоўкі рашэнняў з'езда газеты ні ў якім разе не павінны ўпусціць паказу таго, як гэта прапрацоўка звязваецца з практычнай работай слухачоў школ і гурткоў.

Не слізгаючы па паверхні, не фіксуючы работу партшкол, прапагандыстаў, не ад выпадку да выпадку, а сур'ёзна, глыбока, сістэматычна трэба весці на старонках газет пытанні прапрацоўкі рашэнняў з'езда.

# За якасць бальшэвіцкага друку

**З даклада тав. СТЭЦКАГА**

**на агульна-маскоўскім сходзе рабкораў і работнікаў друку ў Дзень друку—5 мая.**



Спаткапы доўгімі шумнымі апладысментамі, тав. Стэцкі пачаў свой даклад:

— З радасцю адзначаем мы кожны год рост нашага друку, рост рабселькораўскай арміі, бо наш друк—найбольш яркае выражэнне палітычнага і культурнага росту мас. Сёння, у Дзень друку, мы вітаем 10-гадовы юбілей тэарытычнага органа нашага друку —журнала **«Большэвік».** Гэты орган, які вядзе баявую прапаганду марксізма-ленінізма, пачаў выходзіць тыражом у 5-7 тысяч экземпляраў. А зараз ён мае нечуваны для такога тыпу журнала тыраж—450 тысяч экзэмпляраў, які ўсё-ж не пакрывае попыту.

Ні адно вялікае і малое пачынанне не абыходзіцца цяпер без газеты. У вёсцы ўзніклі палітаддзелы МТС, іх арганізацыя суправаджалася з'яўленнем новага тыпу газет — палітаддзельскіх, якіх мы маем зараз 3 тысячы. Партыя кінула сілы на транспарт, там арганізаваны палітаддзелы і разам з імі ўзніклі 25 дарожных газет. Цэхавыя газеты і брыгадны друк на прадпрыемствах сталі звычайным з'явішчам. У вёсцы ў калгасных брыгадах мы маем сотні тысяч насценных газет. На асобных прадпрыемствах, апрача агульнапалітычнай газеты, выдаюцца сатырычная, тэхнічная, літаратурная газеты (завод імя Сталіна ў Маскве, Харкаўскі трактарны завод). Друк расце ўшыркі, углыб і ўвысь: мы маем газеты пад зямлёй — у вугольных шахтах і на метро, пад вадой — на нашых падводных суднах, хутка з'явіцца газета і пад воблакамі; на самалёце «Максим Горький». **(Апладысменты).**

Калі мы гаворым аб гэтых поспехах, мы павінны памятаць, што наш друк стварылі **Ленін і Сталін.** Яны ўдыхнулі ў яго баявы рэволюцыйны дух, навучылі яго, як трэба весці прапаганду марксізма-ленінізма, як трэба ўстанаўляць і мацаваць сувязь з масамі. Тым і моцны наш друк, што ён выхаван у духу ўказанняў нашых вялікіх правадыроў аб **партыйнасці і масавасці** бальшэвіцкага друку.

Тав. Стэцкі ўказвае, што ў сёлетні Дзень друку, які з'яўляецца і днём юбілея ЦО партыі, можна павіншаваць «Праўду», атрымаўшую новае тэхнічнае ўзбраенне. «Праўда», якая шмат змагалася за «цуды» тэхнікі ў нашым Саюзе, зараз сама ўладае магутнейшай ратацыяй, дазваляючай друкаваць увесь яе тыраж за дзве гадзіны.

— Самае цікавае тое, што ўсюды гавораць аб недахваце газет. Інжынеры і тэхнікі патрабуюць тэхнічную газету, студэнты — газету ВНУ і ВТНУ. За апошнія два гады творы Маркса-Энгельса вышлі ў тыражы 7 млн. экзэмпляраў, Леніна—у 16 млн. экземпляраў, даклад таварыша Сталіна на XVII з'ездзе—8 млн. экзэмпляраў, палітграмата —2,5 млн. экзэмпляраў. Але калі спытацца на прадпрыемствах, то зараз-жа высьвятляецца, што марксіецка-ленінскай літаратуры не хапае, не хапае і мастацкай літаратуры і падручнікаў.

Іменна таму зараз мы асабліва сур'ёзна павінны падумаць над тым, як правільна скарыстаць папяровыя рэсурсы, якія ёсць у нашым распараджэнні. Калі зараз спытацца, пад якім асноўным лозунгам павінен праходзіць і праходзіць Дзень друку ў гэтым годзе, то мы павінны адказаць, што **асноўнай задачай друку з'яўляецца барацьба за якасць ідэйнай прадукцыі,** якая даецца на старонках нашага друку. Гэта — галоўнае. Гэта — асноўнае.

Рашэнні XVII з'езда партыі, прадстаўляючыя сабой разгорнутую праграму пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства, разам з тым з'яўляюцца і баявой праграмай работ усяго друку. Уся работа друку павінна быць падпарадкавана прапагандзе рашэнняў XVII з'езда і штодзеннай барацьбе за выкананне за-

дач, пастаўленых з'ездам, бо без рознабаковай мабілізацыі мас гэтыя задачы не могуць быць выкананы.

Трэба прызнаць, што многія рэдактары не зразумелі значэння прапаганды рашэнняў з'езда, прабавалі абмежавацца адным-двума артыкуламі, некалькімі шапкамі з успамінаннем аб з'ездзе, выпадковымі падборкамі і т. д. Прапаганда патрэбна далёка больш складаная, прадуманая, яна павінна ставіць сваёй задачай мабілізацыю масы на выкананне рашэнняў з'езда. ЦК партыі ў сваіх рашэннях аб газетах **«Молот», «Коммуна» «Рабочий край»** указаў, што павярхоўна ставіць справу прапаганды рашэнняў з'езда нельга. Прапаганда гэтых рашэнняў разлічана на многія месяцы, бо ўсе буйнейшыя прынцыповыя палажэнні з'езда трэба давесці да свядомасці кожнага працоўнага.

Многія газеты не толькі не здолелі як след паставіць прапаганду на сваіх старонках, але нават не далі адпору сказэнням, асуджаным ЦК: «палітбаям», «палітаблавам», «палітвудачкам» і т. д. Газеты часта самі прапагандавалі гэтыя няверныя формы, друкавалі надзвычай доўгія, часамі безграматныя, непатрэбныя пытальнікі. З'езд прызнаў, што нашы рэдакцыі, культпропы і ўсе партыйныя арганізацыі павінны з усёй сур'ёзнасцю ўзяцца за ўзняцце ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў партыі. Асноўнае канкрэтнае выражэнне гэтага патрабавання —партыйна-палітычны мінімум для членаў і кандыдатаў партыі.

У нас ёсць газеты, якія ўмеюць пабальшавіцку ставіць прапаганду рашэнняў з'езда. Вось, напрыклад, газета **«Валдайский колхозник»**, Ленінградскай вобласці. Яна здолела паставіць сур'ёзную, навуковую і даступную прапаганду. Яна пачала з адказаў на пытанні па з'ездаўскіх тэмах, з якімі да яе звярачаліся калгаснікі.

Газета прыцягнула да гэтай справы ленінградскае аддзяленне Комакадэміі: арганізавала індывідуальнае шэфства лепшых прапагандыстаў у раёне над вясковымі комуністамі. Растлумачэнне дробнабуржуазнай сутнасці ўраўнілаўкі на сваіх старонках і непасрэдна ў калгасах (з дапамогай 20 прапагандыстаў) газета арганічна звязала з барацьбой супроць кулацкай ураўнілаўкі ў размеркаванні калгасных даходаў. У агульным газета «Валдайский колхозник» так добра паставіла растлумачэнне рашэнняў з'езда, што яе можна смела паставіць у прыклад многім абласным газетам.

Далей тав. Стэцкі ўказвае, што задача газеты не абмяжоўваецца толькі прапагандай. Неабходна і аператыўная барацьба за план.

— Ёсць кіраўнікі гаспадарчыя і савецкія, якія лічаць, што газета — прыдатак, блытаецца ў нагах. Такая бюракратычная адрыжка ёсць сярод некаторых гаспадарнікаў, адміністратараў. Вядома, нічога агульнага з бальшавіцкай пастаноўкай пытання яна не мае. Наш друк— зброя самакрытыкі, зброя руху наперад. І сапраўднае бальшавіцкае кіраўніцтва неабходна ажыццяўляць не толькі загадам, але абавязкова і з дапамогай друку.

Як ажыццяўляць самакрытыку ў нашых газетах?

Тут нецярпімы агульны шум, гістэрыка, патрэбен канкрэтны падыход, канкрэтны разбор, дзе, што і чаму дрэнна. Неабходна, каб, як указваў таварыш **Сталін**, крытыка была сур'ёзнай і глыбокай, а не слізгала па паверхні. Трэба не толькі крытыкаваць, але і вучыць, выхоўваць людзей, паказваць узоры работы. Без такога паказу ўзораў работы па ўсіх участках будаўніцтва не можа быць сапраўднай аператыўнасці ў рабоце газет, як не можа быць і паспяховай барацьбы з перажыткамі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей. «Правда» здолела дасканала паказаць вопыт дыспетчэра Кутафіна і пашырыць яго на ўсю краіну.

У гэтай прапагандзе добрых узораў работы — цэнтр агітацыі, цэнтр барацьбы з перажыткамі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей. А нашы газеты не заўсёды ўмеюць гэта рабіць.

Узяць хоць-бы **«Социалистическое земледелие».** У ёй усё ёсць — карэспандэнцыі, загалоўкі, аншлагі, а... газеты часамі няма. Няма праверкі работы зямельных органаў, няма сапраўднага паказу вопыта перадавых. Калі пачалася сяўба, то з іншых газет можна было аб ёй даведацца больш, чым з «Социалистического земледелия». Узяць такія газеты, як **«Коммуна» (ЦЧВ) і «Горьковская коммуна».** Яны не ўмеюць як след ставіць пытанні ні прапаганды, ні вытворчасці, ні інфармацыі.

У нас ёсць нізавыя газеты, у якіх ёсць чаму павучыцца абласному друку. Гэта такія газеты, як **«Мартеновка»** (Масква, завод «Серп и молот»), **«Мотор»** (Масква, завод «Динамо»), **«Ударник Метростроя»**, **«Догнать и перегнать»** (аўтазавод імя Сталіна), **«Темп»** (Харкаўскі трактарны завод), **«Молотарка»** (Харкаў, завод «Серп и молот»), ленінградскія газеты **«Техника»**, **«Большзвичка»**, **«Мартиец»**, **«Большевик»**. Гэтыя газеты трэба адзначыць сёння, у Дзень друку, яшчэ і таму, што яны здолелі арганізаваць рабкораўскі актыў і паставіць работу з актывам.

Тав. Стэцкі рэзка крытыкуе імкненне раду раённых газет замыкацца ў рамках раёна. Гэта пытанне палітычнае, газета павінна выхоўваць працоўных на прыкладах таго, што робіцца ў СССР, на прыкладах і ўзорах рэвалюцыйнай барацьбы пролетарыяў капіталістычных краін.

Указваючы далей на засмечанасць газетнай мовы (доўгія сказы, недарэчныя словы і скарачэнні і т. д.), тав. Стэцкі гаворыць:

— Пытанне аб мове — гэта пытанне аб якасці нашых газет. Трэба вучыцца ў нашых правадыроў. Вазьміце даклад таварыша Сталіна на XVII партз'ездзе. Там з надзвычайнай чоткасцю гучыць кожнае слова, кожная фраза напоўнена глыбокай мысльлю, кожнае слова даходзіць да чытача.

Далей тав. Стэцкі падрабязна спыняецца на задачах газет у галіне кіраўніцтва рабсельлкорамі, ідэйна-выхаваўчай работы з імі. Асаблівую ўвагу ён аддае пытанню аб вырошчванні з лепшых ударнікаў-рабсельлкораў газетных работнікаў. Газеты павінны выяўляць рабкораўскі актыў, выхоўваць падрыхтаваных, ведаючых работнікаў большэвіцкага друку. **«Ленинградская правда»**, напрыклад, здолела арганізаваць гадовыя курсы газетных работнікаў, на якіх навучаецца звыш 100 рабкораў; аналагічную работу вядзе рад газет на прадпрыемствах. Рабкоры самі павінны «пастаяць за сябе», моцна ставіць перад рэдакцыяй пытанні работы з рабочымі карэспандэнтамі. Ад гэтага залежыць далейшае паляпшэнне работы нашага друку.

У заключэнне даклада тав. Стэцкі, пад доўгія, бурныя апладысменты ўсіх прысутных шле прывітанне брацкаму комуністычнаму друку, які ў найцяжэйшых умовах фашысцкага тэрора гераічна змагаецца за перамогу комунізма.


ПРАВДА

Солдатская правда

СОЦІАЛЪ-ДЕМОКРАТЪ

№ 1.

Пролетаріи всѣхъ странъ, соединяйтесь!

Большэвіцкія газеты вясной 1917 года: «Правда» (ЦО), якая выходзіла ў Ленінградзе, «Солдатская правда» (газета ваеннай арганізацыі пры ЦК большэвікоў), «Социал-демократ» (орган Маскоўскага бюро ЦК).

Л. Каменштэйн

нач. палітаддзела Хойніцкай МТС, узнага роджаны ордэнам Леніна.

# Баицы за ўраджай



Калгасы зоны дзейнасці **Хойніцкай МТС**, пад кіраўніцтвам палітаддзела, 3-га мая выканалі план сяўбы зерневых, тэхнічных і бабовых культур на **103** проц. Сяўба скончана на **26** дзён раней чым летась.

Сотні калгаснікаў-ударнікаў, сапраўдных арганізатараў калгаснай вытворчасці паказалі ўзоры соцыялістычных адносін да працы, мабілізуючы сваім асабістым прыкладам усю калгасную масу на барацьбу за большэвіцкі ўраджай. Вялікая заслуга ў нашай перамозе належыць пізавому калгаснаму друку і селькорам-ударнікам.

У гэту вясну як ніколі была шырока разгорнута работа брыгадных штодзенак. Палітаддзел загадзя правёў масавую падрыхтоўку работнікаў для нізавога друку. У пачатку сакавіка былі праведзены курсы рэдактароў калгасных насценгазет. На курсы былі пасланы лепшыя калгаснікі-ўдарнікі, пераважна партыйцы і комсамольцы, якія потым праявілі сябе добрымі арганізатарамі брыгадных штодзенак.

Аб тым. якое значэнне надаваў палітаддзел брыгаднаму друку, красамоўна сведчыць хоць-бы наступны факт: **адным з галоўных пунктаў умоў конкурса на лепшую вытворчую брыгаду, аб'яўленага палітаддзелам, мы зрабілі рэгулярны выпуск брыгадных штодзенак.**

Кожны палітаддзелец, знаходзячыся ў калгасе, заўсёды правяраў, як працуюць брыгадныя штодзенкі, як ім дапамагаюць партарганізатары, сакратары комсамольскіх ячэек, брыгадзіры.

Штодзеннае партыйнае кіраўніцтва забяспечыла поспех. Многія брыгадныя газеты паказалі сябе сапраўднымі арганізатарамі барацьбы за большэвіцкі парадак у брыгадзе, за перамогу на калгасных палях.

Калгасы імя Вароўскага (Стралічоўскі сельсовет), імя Варашылава (Дварышчанскі сельсовет), перад сяўбой заключылі паміж сабою соцыялістычны дагавор. З таго часу калгасныя насценгазеты з нумара ў нумар пачалі змяшчаць матэрыялы аб ходзе барацьбы за першынства.

Асаблівую ініцыятыву праявіла газета калгаса імя Вароўскага (рэдактар т. **КРЫВІЦКАЯ).**

Гэта газета арганізавала ўзаемную праверку гатоўнасці да сяўбы. Селькоры з калгаса імя Вароўскага правяралі, як падрыхтаваўся да сяўбы калгас імя Варашылава, варашылаўцы правяралі становішча ў калгасе імя Вароўскага. Рэзультаты ўзаемаправеркі былі абмеркаваны на агульных калгасных сходах. Тады-ж былі распрацаваны меры да выпраўлення недахопаў, выкрытых селькорамі.

Праз тыдзень адбылася паўторная праверка гатоўнасці да сяўбы.

З першых дзён сяўбы ў калгасах імя Варашылава і імя Вароўскага выпускаюцца брыгадныя штодзенкі. Брыгадныя газеты паказваюць вопыт лепшых калгаснікаў і жорстка выкрываюць гультаёў, заносячы іх на чорную дошку.

Паказальна **аўтарытэтнасць штодзенак.** Калгаснік Міхась Гарапчанка, занесены штодзенкай на чорную дошку за гультайства, адразу-ж на другі дзень пачаў сумленна працаваць у брыгадзе.

**Штодзенкі цесна звязаны з інспектарамі якасці.** Ні адзін выпадак дрэннай якасці сяўбы не прайшоў міма штодзенак. Узаемаправерка, праведзеная пасля

сяўбы, паказала, што калгасы імя Варашылава і імя Вароўскага яравыя засеялі на «выдатна».

17-га красавіка, калгас імя Варашылава рапартаваў праз раённую газету аб завяршэнні сяўбы ранніх зернавых.

Як толькі газета прыбыла ў калгас імя Вароўскага, рэдкалегіі штодзенак разам з брыгадзірамі склікалі брыгадны сход, на якім абмеркавалі рапарт варашылаўцаў.

У брыгадах, у звеннях, на полі разгарнулася дружная работа. Калгаснікі цвёрда рашылі не ўступаць пяршынства.

25 красавіка калгас імя Вароўскага скончыў сяўбу яравых і ўзяў на буксір суседні адстаючы калгас. Праз два дні—27 красавіка—калгас імя Варашылава таксама скончыў сяўбу і ўзяў на грамадскі буксір суседні калгас «Чырвоны барацьбіт».

А яшчэ праз два дні—29 красавіка **селькоры правялі ўзаемную праверку,** паказаўшую, што і калгас імя Вароўскага, і калгас імя Варашылава яравыя засеялі выдатна.

Такіх прыкладаў, калі брыгадная штодзенка на справе дапамагала брыгадзіру і ўсёй брыгадзе заваяваць пяршынства ў сяўбе, нямала.

Трэцяя брыгада калгаса «Селянін» спаборнічала з першай брыгадай гэтага-ж калгаса. Спачатку трэцяя брыгада моцна адставала. Брыгадная штодзенка не здолела па-баявому разгарнуць сваю работу. Трэцяя брыгада сяўбу каласавых закончыла пазней, чым першая.

Аб гэтых фактах пісала раённая газета. У брыгадзе пабываў памочнік начпалітаддзела па камсамолу т. **Гершман.** Ён гутарыў з брыгадзірам, з рэдактарам штодзенкі, указаў ім на іх промахі і памылкі. Трэцяя брыгада адставала таму, што дысцыпліна была ў заняпадзе, на работу выходзілі позна, з гультайствам не вялі барацьбы.

Брыгадзір і штодзенка ўзяліся за справу. **Газета** жорстка выкрывала гультаёў, паказваючы, што па іх віне адстае ўся брыгада.

На вытворчых нарадах калгаснікі кожны вечар уважліва абмяркоўвалі матэрыялы штодзенкі, прымалі канкрэтныя меры па кожнай заметцы.

У палітычна завостраных заметках брыгадная газета выкрывала ўсякі малейшы выпадак дрэннай якасці сяўбы. Яна паказвала на канкрэтных прыкладах, што сабатаж агратэхнікі—кулацкая справа, што бракаробы дапамагаюць класаваму ворагу. Ні адзін факт нядобраякаснай сяўбы не астаўся без рэагавання.

Заклік штодзенкі своечасова выходзіць на работу падхапілі ўсе калгаснікі. 1 ў выніку раней адстаўшая трэцяя брыгада 28 красавіка **першай** у калгасе завяршыла сяўбу.

Узорна наставілі сваю работу штодзенкі калгаса «Колас». Пад іх уплывам у калгасе нават такія заядлыя гультаі, як Мінчык, Алейнік, Сяргееў, Кузьменка і Фёдараў пачалі выпраўляцца і сумелі на адносіцца да калгаснай працы.

— Мяне перавыхавала газета,—гаворыць цяпер калгаснік Кузьменка.

Узоры ўдарнай работы на палях паказалі селькоры. У калгасе імя Молатава калгаснікі-селькоры **Пятрушэнка** і **Міхаленка** апрацавалі па 4-5 гектараў зямлі больш, чым кожны іншы калгаснік. Гэтыя-ж таварышы, як толькі калгас імя Молатава скончыў сяўбу і ўзяў на грамадскі буксір калгас «Пралетарый», ударна працавалі і ў буксірнай брыгадзе.

У кіраўніцтве селькорамі, у рабоце штодзенак ёсць і рад сур'ёзных недахопаў. Паасобныя газеты займаліся шуміхай, дэкларацыямі, не заўважваючы, што на справе робіцца ў іх брыгадах. У калгасе «Труд» газета не сігналізавала, што бульбу засявалі проста ў цаліну. У калгасах «Савецкая Беларусь» і імя Войкава штодзенкі зусім не выходзілі.

Але ўсё-ж праароблена велізарная работа, якая дала свае вынікі. На няпоўных даных толькі па 21 калгасу зоны дзейнасці нашай МТС выйшла за час сяўбы 316 брыгадных штодзенак. Трэба адзначыць дапамогу, аказаную нам раённай газетай **«Ленінскі сцяг».**

Нізавы калгасны друк набыў небывалы размах. Растуць рады селькораў. Перад намі з усёй вастрасцю стаіць неабходнасць стварэння палітаддзельскай газеты.

Сяўба скончана. Змагаемся за добрае і своечасовае асваенне цаліны і ўздым папараў, поліва і ўзорную падрыхтоўку **да ўборкі.**

Гэтыя задачы—аснова далейшай работы нашага друку і ўсіх рабселькораў.

**Вл. Мятла А. Сцефановіч**

# НАШ УКЛАД У ПЕРАМОГУ РАЁНА

**Барысаўскі раён першым у рэспубліцы выканаў план сяўбы яравых.** Яравыя засеяны на 15 дзён раней, чым у мінулым годзе пры значна лепшай якасці палявых работ.

У сваім артыкуле мы хочам падзяліцца вопытам работы **«Большэвіка Барысаўшчыны»** і нізавога калгаснага друку на сяўбе.

Мабілізацыю мас на падрыхтоўку к пасеўнай гэтага года газета пачала яшчэ з восені, змагаючыся за зябліва. Узяўшы пад свой кантроль засыпку і ахову насенных фондаў газета арганізавала рэйды праверкі. У рэйд уцягнулі селькораў, насценгазеты, сельсовецкія групы садзейнасці РСІ і пракуратуры. У адным толькі Зембінскім сельсовеце працавала 7 брыгад друку з 29 чалавек.

Рэзультаты работы — поўнае захаванне насенных фондаў. За ўсю зіму амаль не было выпадкаў псавання насення. У гэтым вялікую ролю адыгралі **кантрольныя пасты газеты пры свірнах.**

Яшчэ пры размеркаванні ўраджаю газета завастрыла пытанне на стварэнні сфарміраваных фуражных фондаў і канцэнтраваных кармоў для пасеўнай. Вакол гэтага пытання была праведзена вялікая масавая работа.

**На старонках газеты мы правялі пераклічку калгасных конюхаў, потым сумесна з райза арганізавалі конкурс на лепшую канюшню.** У конкурсе прымала ўдзел звыш 200 калгасных конюхаў. У многіх канюшнях, напрыклад, у калгасах «Комінтэрн», «Чырвоная змена», «Навасялец» і інш. выпускаліся насценгазеты. **28 конюхаў пастаянна пішуць у раённую газету.** Гэта— нашы лепшыя селькоры.

**Шмат увагі мы аддалі агратэхвучобе.** Агравучоба праводзіцца круглы год. Камсамолец з калгаса «Перадавік» Хаўхоліцкага сельсовета **Зарэцкі Міхась першы ў БССР атрымаў значок «ЗОТ», здаўшы экзамен па агрмінімуму.**

Рамонт інвентара, збруі арганізавалі з восені. Ужо к 1-му студзеня калгасы «Чырвоная гара», «Маяк соцыялізма», «Сталіна» правялі пробныя выезды ў поле.

З абвешчэннем «Праўдой» усесаюзнага спаборніцтва калгасных брыгадзіраў мы правялі на старонках газеты завочную пераклічку брыгадзіраў, арганізавалі трыбуну вопыта лепшых брыгадзіраў.

Гэта падрыхтоўка.

Пачаліся палявыя работы. Разгарнулася масавая сяўба ранніх яравых. Газета бярэ ўпор на якасць. У калгасе «Комінтэрн» дапусцілі ворыва гуськом, скопам і, як вынік,—агрэхі. «Агрэх у баразне —прарыў у калгасе» — пад такім загалоўкам мы выкрылі ў газеце сапраўдных вінаватых і адначасова паказалі, як трэба пабудаваць работу на полі, як ствараць звенні.

**«Перш за ўсё якасць сяўбы», «Высокія тэмпы—гэта таксама якасць», «Якасць, памножаная на колькасць», «Супроць пагоні за тэмпамі без якасці»** — вось «шапкі» і лозунгі газеты.

Як мы расставілі свае сілы на час пасеўнай? З самага пачатку сяўбы сельска-гаспадарчы аддзел газеты быў значна ўмацаван. Мы перакінулі сюды чатырох найбольш моцных работнікаў. Апрача таго па спецыяльных заданнях у соўгасы і калгасы рэгулярна выязджаюць работнікі з іншых аддзелаў газеты.

**Асноўная ўвага аддана сапраўднаму ўмацаванню калгаснага і брыгаднага друку.** Шэсць работнікаў рэдакцыі прымацаваны к пэўным групам сельсоветаў і нясуць адказнасць за становішча калгасных і брыгадных газет і работу з рабселькорамі ў гэтых сельсоветах. Таварышы выязджаюць у калгасы і непасрэдна на месцы праводзяць жывы інструктаж.

У адзін з найбольш аддалёных апорных пунктаў з чатырох сельсоветаў накіраван спецыяльны інструктар-карэспандэнт. Пасылка інструктара поўнасцю сябе апраўдала. Селькоры атрымалі непасрэдную дзейсную дапамогу. Ва ўсіх сельсоветах у часе сяўбы рэгулярна выходзілі штодзенкі. Інструктар-карэспандэнт праводзіць нарады селькораў, насценкораў, арганізуе селькораўскія рэйды, дае ўказанні, як трэба выпускаць, афармляць газету. У яго ёсць запас ма-

кетаў. У выніку колькасць селькораў у гэтых сельсоветах павялічылася.

**Значна лепшай стала якасць саміх штодзенак.** Многія з іх сталі сапраўднымі арганізатарамі калгаснай вытворчасці, мабілізоўвалі калгаснікаў на своечасовае і ўзорнае правядзенне сяўбы.

У калгасе імя Сталіна за час сяўбы вышла 35 брыгадных штодзенак і 15 нумароў агульнакалгаснай газеты. Штодзенкі і агульнакалгасная газета арганізавалі спаборніцтва брыгад і дабіліся, што ўсе брыгады своечасова і добра выканалі свае заданні па сяўбе.

Можна падаць шмат характэрных фактаў, якія красамоўна сведчаць аб вялікай ролі і аўтарытэце брыгадных штодзенак у калгасе. Малаграматныя калгаснікі, якія не маглі самі напісаць заметку, прыходзілі вечарам у рэдкалегію і расказвалі аб тым, што яны хацелі напісаць.

Або ўзяць газету калгаса «Чырвоная змена». За 23 дні (з 7-га красавіка па 1 мая) вышла 20 нумароў газеты. Кожным нумары газета паказвала лепшых ударнікаў сяўбы і адначасова жорстка крытыкуе бракаробаў і лодыраў, выкрываючы іх, як сабатажнікаў сяўбы. Канкрэтныя вострыя заметкі ў газеце прыкоўвалі ўвагу ўсіх калгаснікаў, падцівалі адстаючых, якія пачалі раўняцца па ўдарніках, занесеных газетай на чырвоную дошку.

Калгас пры дапамозе газеты 30-га красавіка поўнасцю засеяў усе яравыя.

Такіх газет у нас ужо немала.

Далейшае ўзмацненне кіраўніцтва і дапамогі селькорам і нізавому калгаснаму друку мы ставім зараз у аснову ўсёй нашай работы.

У сувязі з дэкаднікам друку мы мабілізуем увесь нізавы друк і рабселькораў на лепшае правядзенне папаравай кампаніі, распрацоўкі цаліны, праполкі, падрыхтоўкі да ўборкі і зернапаставак.

**Барысаў, рэдакцыя газеты «Большэвік Барысаўшчыны».**

---

**М. Чаускі**

Рэдактар газеты палітаддзела Першай Менскай МТС **«Ударнік калгасных палёў».**

# Газета зажыла новым жыццём

З чаго пачаць? Відаць, гэта пытанне ўзнікае заўсёды, калі рэдактар упершыню прыступае да работы. Такое пачуцце прышлося перажыць мне ў сакавіку, калі я першы раз паглядзеў на газету **«Ударнік калгасных палёў».** Газета выходзіла ад выпадку да выпадку. Яна запаўнялася агульнымі матэрыяламі, якія зусім не адлюстроўвалі жыццё і работу палітаддзела. Адчуваўся адрыў рэдакцыі ад калгаснай вытворчасці, брыгады, звяна.

***

Сакавік. Краіна прапрацоўвае і ператварае ў жыццё гістарычныя рашэнні XVII з'езда партыі. Краіна рыхтуецца добра сустрэць другую большэвіцкую вясну другой пяцігодкі.

Бярэмся за распрацоўку апэратыўнага плана работы газеты. У аснову па кладзены мерапрыемствы, высунутыя ў пісьме калгасных брыгадзіраў Міласцькураўскай МТС.

У зоне дзейнасці Першай Менскай МТС ёсць рад буйнейшых калгасаў (с.-г. арцелі імя Фалько, імя Войкава, «Ленінскі шлях», «Чырвоны спецыяліст» і іншыя). Мы парашылі ўзяць пад асобны нагляд гэтыя калгасы, каб яны служылі прыкладам усім іншым калгасам зоны дзейнасці нашай МТС.

Гутарка з начальнікам палітаддзела. Абмен думкамі. План ухвален.

Газета арганізуе выезд у калгас імя Фалько. Гэты калгас у мінулым годзе ўвесь час быў на чорнай дошцы.

У калгасе мы перш за ўсё глыбока вывучылі становішча кожнай вытворчай брыгады ( у калгасе імя Фалько—сем брыгад). Дэтальна правяраем, як кожная брыгада рыхтуецца да веснавой сяўбы. Газета праводзіць нараду брыгадзіраў разам з калгасным актывам, на якой

уважліва абмяркоўваем пісьмо брыгадзіраў Міласць-Куракінскай МТС. Нарада распрацавала свае прапановы і звярнулася з адкрытым пісьмом да ўсіх калгаснікаў зоны дзейнасці МТС і ўсіх калгаснікаў БССР, заклікаючы іх разгарнуць усебеларускае спаборніцтва на лепшае правядзенне сяўбы.

Палітаддзел і газета арганізуюць шырокую прапрацоўку гэтага пісьма ў іншых калгасах, брыгадах, звеннях.

Першымі падхапілі выклік калгасы імя Фалько, «Другая пяцігодка» і «Ленінскі шлях». Адгукнуліся і іншыя калгасы.

Задача заключалася цяпер у тым, каб ператварыць спаборніцтва ў жывую канкрэтную справу, не дапускаючы дэкларацыйнасці,араднай шуміхі.

Прыступаем к практычным мерапрыемствам. Газета і палітаддзел арганізуюць масавы рэйд па праверцы становішча конскага пагалоўя. У рэйд уцягнуты селькоры і лепшыя курсанты з арганізаваных палітаддзелам курсаў конюхаў. Непасрэдны ўдзел у рэйдзе прымае шырокі калгасны актыў.

Удзельнікі рэйда ўсебакова праверылі ў кожным калгасе, брыгадзе становішча конскага пагалоўя. Пасля праверкі адбылася нарада ўсіх удзельнікаў рэйда і старшынь паасобных калгасаў. Нарада падагуліла вынікі праверкі і звярнулася да ўсіх калгасных конюхаў з пісьмом—канкрэтнымі прапановамі па падрыхтоўцы коней да сяўбы. Матэрыялы рэйда былі змешчаны на старонках газеты.

Не абышлося і без дэкларацый. Паасобныя калгасы, узяўшы на сябе абавязацельствы, іх не выконвалі. Кожны такі факт своечасова выкрываўся праз газету, каб не дапусціць ператварэння спаборніцтва ў парадную шуміху.

**Праверка выканання** — на першым плане. Палітаддзел праводзіць сход усіх комуністаў зоны дзейнасці МТС. На сходзе перад кожным партарганізатарам, кожным радавым партыйцам было пастаўлена пытанне, як яны ўзначалілі спаборніцтва брыгад. Таксама быў праведзен сход комсамольцаў, прысвечаны гэтым-жа пытанням.

Палітаддзел арганізаваў куставыя нарады брыгадзіраў, звеннявых і рэдактароў калгасных газет, прысвечаныя праверцы выканання соцыялістычных дагавароў.

Пасля такой папярэдняй падрыхтоўкі мы правялі злёт брыгадзіраў і рэдактароў брыгадных газет усёй зоны дзейнасці МТС, які абмеркаваў папярэднія вынікі спаборніцтва. Нарады і злёт далі багацейшыя матэрыялы, якія былі адлюстраваны на старонках газеты.

Рэдакцыя сістэматычна паказвала, як кожны паасобны калгас выконвае свае абавязацельствы, сігналізуючы аб тых ці іншых недахопах, папулярызуючы вопыт лепшых.

Але мала толькі сігналізаваць аб недахопах. Галоўнае — дапамагчы іх выправіць.

Ініцыятар спаборніцтва брыгад—**калгас імя Фалько** не выконваў сваіх абавязацельстваў. У калгасе запанавалі дэмабілізацыйныя благадушныя настроі. Газета забіла трывогу.

Шляхам масавай работы пад кіраўніцтвам нам. начальніка палітаддзела т. **СОСІНАВА,** які неадкладна прыбыў у калгас, становішча выпраўляецца. Наладжан рэгулярны выхад брыгадных газет. У самім калгасе і ў брыгадах арганізаваны чырвоныя і чорныя дошкі, ума цавана работа інспекцый па якасці. Брыгады з трывогай сачылі за чырвонымі і чорнымі дошкамі, за газетай.

Перадавая брыгада Зайцава была занесена на чырвоную дошку. Маладзёжная брыгада Бусько—на чорную. Тады брыгада Бусько, мабілізаваўшы ўсе свае сілы, пачала так працаваць, што к 25 красавіка вышла на адно з першых месц і была знята з чорнай дошкі.

Брыгада Андрэя Палітанскага таксама значна адставала ад брыгады Зайцава. Андрэй Палітанскі і ўся брыгада падцягваюцца, працуюць сапраўды ўдарна, пільна сочаць за якасцю і, нарэшце, абганяюць брыгаду Зайцава. Але брыгада Зайцава не хоча аддаць першынства і агульнымі намаганнямі, дружнай працай раней за ўсе брыгады завяршае сяўбу. Так, на аснове спаборніцтва і ўдарніцтва 30-га сакавіка раніцой усе сем брыгад калгаса імя Фалько завяршылі сяўбу зернавых.

Палітаддзельская газета пільна сачыла за якасцю палявых работ. У калгасе «Чырвоны спецыяліст» дапускалі агрэхі, сеялі ў аднавор. Газета неадкладна змяшчала матэрыялы, у якіх выкрываліся сабатажнікі якасці. Па сігналах газеты былі прыняты адпаведныя меры:

кіраўніцтва калгаса знята з работы.

Па ініцыятыве газеты ў калгасах раз гарнулася ўзаемная праверка якасці. Калгас правяраў калгас, брыгада—брыгаду.

**Вялікую работу на сяўбе правёў нізавы калгасны друк.** У калгасе «Ленінскі шлях» вышлі **82 нумары брыгадных газет.** Пры іх дапамозе «Ленінскі шлях» першым скончыў сяўбу. У Грычанскім сельсовеце мы выпускалі **друкаваную газету «За высокі ўраджай».**

Значную дапамогу нізавому друку і селькорам аказаў агітпалітфургон палітаддзела, да якога быў прымацован работнік газеты «Ударнік калгасных палёў».

За 11 дзён палітфургон абслужыў калгасы «Чырвоны спецыяліст», «Чырвоны будаўнік», «Ленінскі шлях», імя Будзённага і «Окцябрская рэволюцыя». У гэтых калгасах выпускаліся **светавыя і друкаваныя** на ратататары газеты, праводзілася масава-культурная работа, што значна ўзмацніла тэмпы сяўбы.

... Агітпалітфургон прыехаў у 4-ю брыгаду калгаса «Окцябрская рэволюцыя». Гэта брыгада значна адставала. У брыгадзе выпускаецца светавая і друкаваная газеты. У вострых заметках крытыкуюцца промахі, недахопы ў рабоце брыгады, жывыя людзі, вінаватыя ў дрэнная рабоце брыгады.

Адставанне ліквідуецца. Брыгада 28 красавіка скончыла сяўбу зернавых.

1-га мая другая брыгада гэтага-ж калгаса не вышла на работу. **Неадкладна ў 30 экземплярах выпускаецца газета з матэрыяламі аб 2-й брыгадзе.** Газета з рук у рукі пашла па калгасніках. З 12 гадзін дня ўся брыгада ўжо на рабоце. На другі дзень раніцой усе калгаснікі вышлі на работу своечасова.

Скончан толькі першы этап спаборніцтва. Замацаваць дасягнутыя вынікі, узняць спаборніцтва на новую ступень, каб з поспехам завяршыць усю сяўбу і добра падрыхтавацца да ўборкі,—асноўная задача нашай газеты.




**Газета палітаддзела першай менскай МТС і аперацыйныя бюлетэні, якія выпускаліся сумесна з рабочымі завода імя Варашылава ў дапамогу веснавой сяўбе.**

# Лагойскія штурмы




ЛАГОЙСКІ раён ганебна зацягвае сяўбу. Да масавай сяўбы калгасы Лагойшчыны прыступілі толькі 20 красавіка. Але і зараз у раёне сеюць дрэнна, марудна і нядобраякасна.

Выклікае мімавольнае здзіўленне пазіцыя раённай газеты «ЧЫРВОНАЯ ЛАГОЙШЧЫНА». Калі верыць рэдакцыі, то сяўба ў раёне да апошняга часу праходзіла, прынамсі, выдатна.

3-га красавіка, калі пра сяўбу ў Лагойску яшчэ і не думалі, «Чырвоная Лагойшчына» ў перадавым артыкуле з вялікім захапленнем заявіла, што «па раёну ўжо Ў МАСАВЫМ ПАРАДКУ РАЗГОРТВАЮЦЦА ПАЛЯВЫЯ РАБОТЫ».

Пасля гэтай, зусім беспадстаўнай заявы, газета яшчэ больш супакоілася. Выходзіць нумар за нумарам. Аб сяўбе рэдакцыя піша менш за ўсё: па 2-3 заметкі. Амаль усе гэтыя заметкі складзены ў самым аптымістычным тоне: «скончым сяўбу ў тэрмін», «разгарнулі сяўбу», «палявыя работы ідуць ва ўсю». і т. д. і т. д.

Але фантазёрства фантазёрствам, а факты фактамі. Пад напорам фактаў з лагойскай рэчаіснасці газеце прыходзіцца, нарэшце, рэзка мяняць тон.

26-га красавіка «Ч. Л.» выступае ўжо з зусім іншымі заявамі. «ВЫВЕСЦІ РАЁН З ПРАРЫВУ», — заклікае рэдакцыя.

У пастанове райкома, РВК і палітаддзела МТС, змешчанай у гэтым-жа нумары, чытаем, што «сяўба ў раёне праходзіць НЕДАПУШЧАЛЬНА МАРУДНА па ўсіх сектарах».

З гэтага часу лагойскай газеты не пазнаць. Замест салодзенькай балбатні аб неіснуючых поспехах—суцэльныя заклікі к штурму. Штурм! Штурм!. Дэкаднік штурму. Пяцідзеннік штурму. Першыя дні штурму. Апошнія дні штурму! І так без канца.

Штурмы чаканых вынікаў не далі. К 10 мая раён выканаў свой пасеўны план толькі на 63,7 проц.

14-га мая «ЗВЯЗДА» выкрыла прычыны ганебнага адставання Лагойшчыны: надзвычай дрэнная арганізацыя палявых работ і няправільная расстаноўка сіл унутры брыгад, нізкая працоўная дысцыпліна.

«Чырвоная Лагойшчына» не бачыць гэтых прычын, абмінае гэтыя пытанні.

Газета, літаральна, крычыць аб адставанні раёна, але не бярэцца за асноўныя звенні. Яна, як правіла, выступае наогул, аперуючы толькі голымі лічбамі са зводак.

У раёне позна пачынаецца работа на палях. Многія калгаснікі несвоечасова выходзяць на работу. Рэдакцыя-ж да 13 мая змясціла толькі адну заметку пра позні выхад на работу (калгас імя Калініна) плюс аншлаг: «Выходзіць у поле з рассветам». Вось і ўсё.

У артыкуле: «ЧАМУ НЕ СЕЕ ЛАГОЙШЧЫНА» «Звязда» пісала:

**«У ЛАГОЙШЧЫНЕ ЎПАРТА ІГНАРУЮЦЬ РАДКОВУЮ СЯЎБУ. У РАЁНЕ ЁСЦЬ 29 СЯВЯРАК, З ІХ 7 ТРАКТАРНЫХ. УСЕ ЯНЫ СТАЯЦЬ ПАД СТРЭХАМІ І РЖАВЕЮЦЬ, А КАЛГАСЫ СЕЮЦЬ УРУЧНУЮ».**

У «Чырвонай Лагойшчыне» пра гэтыя факты не знойдзеш ні слова.

Такавы факты, ілюструючыя работу «Чырвонай Лагойшчыны». Яны яўна гавораць не на карысць рэдакцыі.

Штурмоўшчына, штампаванне зводак —пара, даўно пара адмовіцца ад такіх, з дазволу сказаць, метадаў і на справе разгарнуць барацьбу за неадкладную ліквідацыю адставання Лагойшчыны на сяўбе.

# За шырмай дэкларацый

**Ленінскі шлях**

Орган Б.-Кашалёўскага РК КП(б)Б, РВК і Райпрафсавета

Любяць у **Буда-Кашалёве** дэкларацыі, хоць па дзесяць раз у дзень гатовы дэкларыраваць.

Любіць іх і раённая газета **«Ленінскі шлях»**. Выконваючы абавязкі адказнага рэдактара тав. **МАЙЗЕЛЬС** з задавальненем друкуе ўсе дэкларацыі, якія толькі паступаюць у рэдакцыю. Гэта любоў к дэкларатыўнасці дае сябе моцна адчуваць у рабоце газеты па пытаннях рэалізацыі новай пазыкі.

Пасля апублікавання ўрадавага дэкрэта аб пазыцы рэдакцыя змяшчае два, так сказаць, водгукі.

Першы водгук—загадчыка райфа **Харытоненка** і загадчыка райашчадкасы **Строгаля.** Яны прыслалі ў рэдакцыю доўгую дэкларацыю—**«Нашы абавязацельствы ў соцыялістычным спаборніцтве з Уваравіцкім раёнам».** Сярод многіх агульных разважанняў і штампаваных пунктаў ёсць і канкрэтныя абавязацельствы. Напрыклад:

**«Да 15 мая 1934 года ахапіць падпіскай усіх калгаснікаў і калгасніц на суму іх трохтыднёвага дахода».**

Абавязацельства, зразумела, нядрэннае, але ўся справа ў тым, што яно асталося пустой дэкларацыяй. На 11 мая Буда-Кашалеўскі раён рэалізаваў пазыку сярод калгаснікаў толькі на 66,2 проц. кантрольнага задання.

Рэдакцыя **«Л. Ш.»**, змясціўшы абавязацельствы, не знайшла патрэбным сістэматычна сачыць і кантраляваць іх ажыццяўленне.

Другі водгук—кантралёра рагінскай ашчадкасы **Шалыгіна.** Узяўшы на сябе абавязацельства

**«...падпіску на пазыку сярод рабочых і служачых скончыць не пазней 25 красавіка, а сярод калгаснікаў да свята 1 мая», —**

кантралёр Шалыгін выклікаў на спаборніцтва ўсіх загадчыкаў сельашчадкас. І якая дзіўная аператыўнасць газеты! — тут-жа друкуецца адказ кантралёра б.-люшаўскай і губіцкай райашчадкас—**Ціханава** і **Дзедушкіна.** Яны

**«зусім згодны з указанымі ў яго (Шалыгіна) выкліку тэрмінамі рэалізацыі пазыкі».**

Ці трэба гаварыць аб тым, што і гэтыя абавязацельствы асталіся на паперы? 24 красавіка газета вымушана была канстатаваць, што

**«Губіцкі, Рагінскі і Патапаўскі сельсоветы, якія маюць нядрэнныя паказальнікі па рабочых і служачых, АДСТАЮЦЬ У РЭАЛІЗАЦЫІ ПАЗЫКІ СЯРОД КАЛГАСНІКАЎ І НІЯКАЙ РАБОТЫ НЕ ПРАВОДЗЯЦЬ СЯРОД АДНААСОБНІКАЎ».** (Бюлетэнь № 3).

17 і 19 красавіка вышлі два бюлетэні, прысвечаныя новай пазыцы. І тут не абышлося без гучных дэкларацый, дапоўненых пагоняй за рэкордамі. Газета з захапленнем паведамляе (бюлетэнь № 1), што пленум Недайскага сельсовета ўзяў на сябе самаабавязацельства:

**«да 25 красавіка ахапіць падпіскай УСІХ КАЛГАСНІКАЎ І КАЛГАСНІЦ на 3-хтыднёвы даход, але не менш, чым на 13.200 руб. і да 25-га сабраць з калгаснікаў 3.000 р. наяўнымі. Да 1 мая скончыць размяшчэнне пазыкі сярод аднаасобнікаў на суму 4.000 руб.».**

У гэтым-жа бюлетэні змешчана яшчэ адно паведамленне аб тым, што 15 красавіка адбыўся пленум Рагінскага сельсовета, на якім

**«Прынята рашэнне скончыць падпіску СЯРОД РАБОЧЫХ, СЛУЖАЧЫХ І КАЛГАСНІКАЎ ЗА ТРЫ ДНІ!».**

Рэдакцыя захапляецца! Жарты, людзі абавязаліся за тры дні скончыць падпіску! І ў гэтым захапленні яна не заўважвае, што дае звыш супярэчлівыя адна другой дэкларацыі, блытае тэрміны, лічбы. У наступным бюлетэні змяшчаецца абавязацельства таго-ж Рагінскага сельсовета, дзе гаворыцца аб сканчэнні падпіскі **сярод рабочых і служачых** ужо не за тры дні, а **за пяць,** не да 18

красавіка, а **да 20-га.** Што-ж датычыць падпіскі сярод калгаснікаў, то тэрміны на гэты раз парашылі проста не ўказваць.

Чаго варты гэтыя, з дазволу сказаць, самаабавязацельствы, якія «Ленінскі шлях» так ахвотна штампуе на сваіх старонках?

---

## КАЛЕКТЫВІСТ

Калі «Ленінскі шлях» захапіўся дэкларацыямі і рэкордамі, дык Уваравіцкая раённая газета **«Калектывіст»** праявіла занадта ўжо вялікі спакой.

Да 18 красавіка газета зусім маўчала. Рэдакцыя не ўдасужылася нават выпусціць нумар газеты і апублікаваць дэкрэт урада аб новай пазыцы. Прышлося чытачам «Калектывіста» даведвацца аб пазыцы з іншых крыніц. Не дзіва, што ёсць яшчэ месцы ва Ўваравіцкім раёне, дзе аб пазыцы не ведаюць і да гэтага часу. Вось, напрыклад, што паведамляе селькор **В. Т.** у сваім пісьме ў «Звязду».

> **«Рэалізацыя пазыкі другога года другой пяцігодкі па Сталінскаму сельсовету праходзіць надта марудна. Шмат калгаснікаў і аднаасобнікаў яшчэ да гэтага часу не ведаюць пра выпуск новай пазыкі».**

18 красавіка газета, нарэшце, вышла. Можна было чакаць, што яна дасць разгорнуты аператыўны матэрыял аб ходзе падпіскі.

Але-ж не! Рэдакцыя, апрача перадавога артыкула (перадрукаванага, да рэчы, са «Звязды»), не знайшла магчымым даць больш чым дзве кароткія няграматныя заметкі, прычым адну з іх рэдакцыя прысвяціла... сама сабе.

> **«Калектыў работнікаў рэдакцыі і друкарні «Калектывіст», атрымаўшы весткі аб выпуску пазыкі другой пяцігодкі, выпуску другога года. Правялі лятучы сход па падпісцы, дзе ўсе работнікі падпісаліся на свой месячны заработак».**

Не будзем гаварыць аб мове. Вернемся да алімпійскага спакою, з якім работнікі «Калектывіста» сустрэлі новую пазыку. 20 красавіка газета змяшчае падборку пад загалоўкам **«Сродкамі ад пазыкі другога года другой пяцігодкі паскорым перабудову калгасаў у бальшэвіцкія, а калгаснікаў у заможных».**

Чаго толькі няма ў гэтай падборцы? Тут і зусім блытаны і няграматны артыкул аб удзеле асветнікаў у рэалізацыі пазыкі, і заметка аб тым, што ў калгасе імя Будзённага зацягваецца размеркаванне ўраджаю, і нават заметка аб... падпісцы на газету.

Між іншым, у памянёным артыкуле аб асветніках газета паведамляе, што

> **«РК саюза ў сваёй пастанове ад 15 красавіка 1934 г. абавязаў усе селькомы змагацца за пяршынства—падпіска не менш чым на месячны аклад».**

Аказваецца, можна проста АБАВЯЗАЦЬ змагацца за пяршынства. А мы гэтага і не ведалі. Ва Ўваравічах такія метады соцспаборніцтва, відаць, часта практыкуюцца. «Калектывіст»-жа іх ахвотна папулярызуе.

Пасля гэтай «разгорнутай» падборкі рэдакцыя ў наступных двух нумарах ад 22 і 27 красавіка змяшчае некалькі агульных заметак і потым робіць перапынак на цэлую дэкаду. Затым даюцца яшчэ некалькі заметак такой-жа якасці і зместу. Вось і ўся «работа», уся, так сказаць, «барацьба» газеты за паспяховае размяшчэнне пазыкі.

У выніку ў раёне па вёсцы пазыка рэалізавана на 27,7 проц.. Па аднаасобнаму сектару не размешчана ні адна абліґацыя. Астаецца сказаць яшчэ некалькі слоў аб тым, як газета «папулярызуе» соцспаборніцтва паміж Уваравіцкім і Буда-Кашалёўскім раёнамі. Літаральна ні аднаго слова!

Вельмі дзіўнае маўчанне! Або рэдакцыя не ведае, з кім спаборнічае раён, або яна не хоча агалашаць, што нават параўнальна з астальным па рэалізацыі пазыкі Буда-Кашалёўскім раёнам Уваравічы цягнуцца ў хвасце...

# Газета, страціўшая класавую пільнасць

Социалистический
ТРАНСПОРТ
№ 25 (322) | Вторник, 30 января 1934 г. | № 25 (322)

Яшчэ ў пачатку лютага рабкор **ТОРМАН** пісаў у **«Соцыялістычны транспарт»** аб агіднасцях, якія творацца на станцыі Насва, аб злачынных справах дзяжурнага па станцыі **ШАМШУРЫ**, раскулачанага ў 1929 годзе, п'яніцы, дэзарганізатара транспарта і старшыні МК **ФІЛЬЧАНКА**, сабутыльніка Шамшуры.

На заметку ніхто не рэагаваў, а газета не праверыла дзейснасць сваіх сігналаў.

Класава-варожыя элементы, якія прабраліся на транспарт, пачынаюць паграджаць Торману расправай. Торман атрымлівае ананімныя пісьмы накшталт: «Пакінь гэту чортаву работу, а то ты атрымаеш кінжал у бок». Але Торман —актыўны рабкор, рэдактар насценгазеты—не пакідае «чортаву работу». Тады Шамшура і яго сабутыльнікі арганізуюць цкаванне тав. Тормана. Ім удаецца пазбавіць яго права рэдагаваць насценгазету. На чале насценгазеты становіцца сам кулак Шамшура.

Торман піша аб гэтым у «Соцыялістычны транспарт». Здавалася, «Соцыялістычны транспарт» спецыяльна зоймецца гэтай справай. Але не такія людзі сядзяць у рэдакцыі. Яны астаюцца глухімі да сігналаў рабкора. Кулак Шамшура, скарыстаўшы палітычную тупасць рэдакцыі, узмацняе цкаванне Тормана, шальмуе яго, беспадстаўна абвінавачвае яго ў розных злачынствах. Але і гэта не парушае выключнай роўнадушнасці рэдакцыі.

Праз некаторы час на месца выязджае прадстаўнік райпрофсача **Івашкевіч** і рэвізор руху **Вакер**. Яны займаюцца «праверкай» матэрыялаў аб ганенні на рабкора. Гэтыя палітычныя сляпцы пачыноўніцку падыходзяць да справы, расцэньваючы яе толькі як простую склоку. Гэта развязвае рукі кулаку Шамшура.

— Я праллю тваю сволачную кроў,— і Шамшура кідаецца з сякерай на Тормана. І зноў «расследвальнікі» з райпрафсача кваліфікавалі гэты адкрыты замах на рабкора толькі як «зацяванне бойкі». Агульны сход работнікаў станцыі Насва з благаславення прадстаўніка райпрафсача выносіць саламонава рашэнне:

> **«Тормана за адкрытую садзейнасць у распальванні склокі, за заціск самакрытыкі выключыць з членаў саюза. Хадайнічаць аб пераводзе яго на другую станцыю, а дзяжурнаму па станцыі Шамшура за склоку, за зацяванне бойкі абвясціць суровую вымову з папярэджаннем».**

Гэта рашэнне — перамога кулака Шамшуры. Ён дабіўся свайго, пазбавіўся ад «надакучлівага» рабкора.

А газета маўчыць. Замах на т. Тормана быў 27 лютага, агульны сход работнікаў станцыі адбыўся 2-га сакавіка, а «Соцыялістычны транспарт» — толькі 18 сакавіка выступіў з артыкулам па гэтаму пытанню, пасля таго, як справай ужо заняліся судова-следчыя органы.

У гэтым адзіным за ўвесь час артыкуле «Ніякай літасці класаваму ворагу Шамшуры і яго дапаможнікам», рэдакцыя не завастрае ўвагі на разгортванне самакрытыкі, на ачыстцы транспарта ад класава-варожых элементаў. Чаго-ж патрабуе газета?

> **«Пролетарскі суд зможа моцна ўдарыць па руках класавага ворага, які асмеліцца ўзняць яе на рабкора, актыўнага грамадскага работніка, барацьбіта за аздараўленне транспарта».**

Па-першае, ці даволі толькі «біць па руках класавага ворага»? Па-другое, газета патрабуе «біць па руках» толькі Шамшуры, а як-жа быць з тымі, хто дапамагаў яму, хто яны гэтыя людзі?

Аб іх газета маўчыць. Яна толькі скрозь зубы заяўляе:

**«Гэты працэс павінен паслужыць таксама сур'ёзнейшым урокам і таму, хто забывае аб неабходнасці падвоіць, падзесяцярыць класавую пільнасць».**

Хто забывае? З газеты не відаць. А між тым гэта ў першую чаргу датычыць самой рэдакцыі «Соцыялістычны транспарт».

**«Ён (працэс.—РЭД) будзе і ўрокам для прэявіўшых палітычную слепату Івашкевіча, Вакара і інш.»**

— канчае рэдакцыя свой артыкул.

Газета лічыць, што ў адносінах палітычных сляпцоў, якія ўзялі пад сваю абарону класавага ворага, якія дапамагалі ганенню на рабкора, даволі абмежавацца толькі тым, што яны самі атрымаюць урокі з гэтай справы.

Змясціўшы артыкул, газета больш не звярочваецца да гэтага пытання аж да суда. 31 сакавіка лінейны суд разглядаў справу кулака Шамшура. Прайшло тры дні а газета ні словам не абмовілася аб працэсе. Толькі 3-га красавіка яна дала кароткую дзесяцірадковую інфармацыю, у якой паведамлялася, што пастановай суда Шамшура за замах на рабкора прыгавораны да 5 год пазбаўлення волі, а Вакар—рэвізор руху—умоўна на адзін год.

Чаму «расследвальнік» Вакар асуджан, а Івашкевіч не асуджан—невядома.

Газета недаацаніла палітычнага значэння працэса, не ўзняла яго на патрэбную прынцыповую вышыню, яна не скарыстала працэса для выкрыцця сапраўднага твару класавага ворага, для мабілізацыі шырокіх мас рабкораў на барацьбу за рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда партыі аб транспарце.

**
*

Шамшура не адзінокі. Шамшуры ёсць і на станцыі Віцебск. 5-га красавіка на кіраўніка лёгкай кавалерыі вагоннага дэпо рабкора **Хітава**, які сістэматычна выкрываў антысемітаў і злодзеяў, напалі і паранілі яго нажом у грудзі. 1-га красавіка на 4-м акалодку 10-ай дыстанцыі шляху Садкоўскі і Зінкевіч збілі рабкора **Шміпава**, які выкрываў іх у насценгазеце як хуліганаў і лодыраў.

«Соцыялістычны транспарт» рашыў паправіць памылку, якую ён дапусціў па справе рабкора Тормана, і 8-га красавіка прысвячае гэтым двум фактам перадавы артыкул. Паўтарыўшы вядомы ўжо загаловак ад 18-га сакавіка «Ніякай літасці класавым ворагам і іх дапаможнікам» (аб якіх дапаможніках гутарка ідзе і тут—невядома.—**Рэд.**), газета патрабуе павышэння класавай пільнасці. Але яна выпусціла з артыкула адну «дробязь» — вінаватых арганізатараў крывавай расправы над рабкорам Хітавым. Гэта-ж факт, што тыя агіднасці, якія былі выкрыты Хітавым у дэпо, тварыліся на працягу 5 месяцаў, і толькі тады, калі класава-варожыя элементы паранілі Хітава, загаварылі чыгуначныя арганізацыі і «Соцыялістычны транспарт».

А дзе-ж былі на працягу пяці месяцаў заводскія арганізацыі? Ці не сведчыць гэта аб заціску самакрытыкі ў вагонным дэпо? Дзе, урэшце, была сама газета «Соцыялістычны транспарт», пад бокам у якой знаходзіцца гэта дэпо?

Перадавы артыкул, канстатуючы факты і заклікаючы да класавай пільнасці, патрабуе:

**«Даць самы сакрушальны адпор усякім класава-варожым вылазкам, выкрыць носьбітаў варожых настрояў і іх натхніцеляў, якія хаваюцца пад формай чыгуначнікаў».**

Такой агульнай канцоўкай абмяжоўваецца газета. Што датычыць канкрэтных асоб—удзельнікаў замаху і садзейнічаючых ім—аб гэтым газета маўчыць. З газеты не відаць—пакараны арганізатары замахаў на рабкораў-актывістаў, ці не.

Зусім не ўстрывожыў рэдакцыю газеты «Соцыялістычны транспарт» і чарговы факт кулацкай помсты на станцыі Віцебск, калі лепшага грамадскага работніка, парторга, рабкора **Чэпікава** пхнуў пад паравоз выкрыты ім злодзей Архіпаў. Аб гэтым забойстве газета зноў маўчыць. Забойства адбылося 3-га красавіка, а газета толькі 26-га красавіка **пасля суда** (і то на апошняй старонцы) змясціла хранікёрскую заметку аб працэсе.

Вывад з усяго гэтага можа быць толькі адзін: рэдакцыя газеты «Соцыялістычны транспарт» страціла класавую пільнасць.

ЮР. БЕЛЬКО

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ РАЁННАЙ ГАЗЕЦЕ

Рэдакцыя перажывае напружаныя дні. У раёне ідзе масавая сяўба.

Раніцой у рэдакцыю прыбывае чарговая пошта. Рэдактар прагна хапаецца за прынесеныя пісьмы: сёння выходзіць нумар газеты, можа селькоры паведамляюць новыя важныя факты аб ходзе сяўбы.

Аднак, праз хвіліну наступае расчараванне. Прачытана адно, другое, трэцяе пісьмо. Не тое. Зусім не тое, што асабліва патрэбна зараз.

— Не ведаю, што здарылася. Кожны дзень мы атрымліваем ад сваіх селькораў шмат заметак, але з іх толькі аднадзве па пытаннях сяўбы. Вось тут і рабі, што хочаш.

Так гаворыць т. **КАЦЮШЭНКА** — рэдактар дрысенскай раённай газеты **«ЗВЯЗДА НА РУБЯЖЫ»**.

Чаму ўсё-ж селькоры не пішуць у сваю раённую газету аб веснавой сяўбе? Пытанне становіцца ясным, калі азнаёмішся з той работай, якую праводзіць газета сярод сваіх селькораў.

Перад сяўбой рэдакцыя газеты «Звязда на рубяжы» арганізавала злёт рабселькораў. Масавай падрыхтоўчай работы да злёта не правялі. У выніку з усяго раёна на злёт з'явілася толькі 30 дэлегатаў. Злёт прайшоў дрэнна.

Закінула рэдакцыя і перапіску са сваімі селькорамі. Некалькі месяцаў назад паасобныя работнікі рэдакцыі пісалі селькорам пісьмы, адказвалі на іх запытанні. Але пачалася пасеўная кампанія і рэдакцыя невядома па якіх прычынах спыняе перапіску. Спыняе якраз тады, калі сувязь з селькорамі трэба было асабліва ўзмацніць.

Рэдакцыйныя работнікі ў сваё апраўданне заяўляюць:

— Наступіла вясна. Шмат работы ў сувязі з сяўбой, проста няма калі сабрацца і напісаць пісьмо селькору.

Наўрад ці трэба каментаваць падобныя заявы.

Цяпер аб жывым кіраўніцтве селькорамі. І з гэтай справай у газеце «Звязда на рубяжы» вельмі дрэнна. Работнікі рэдакцыі часта выязджаюць на раён, але, будучы ў калгасах, зусім не звязваюцца з селькорамі, не дапамагаюць ім.

Вось чаму ў рэдакцыю дрысенскай газеты селькоры пішуць мала. Вінавата сама рэдакцыя, бо яна аслабіла кіраўніцтва селькорамі, якраз у той час, калі яго трэба было асабліва ўмацаваць.

Прабавала рэдакцыя газеты «Звязда на рубяжы» перабудаваць сваю работу. Ліквідавалі сектары. Прымацавалі кожнага работніка да двух-трох сельсоветаў. Але не паспелі прымацаваныя таварышы нават азнаёміцца з калгасамі, як кіраўніцтва рэдакцыі раптам рашае зноў «перабудаваць» усё нанава. Прымацаванне работнікаў да сельсоветаў скасавалі, назначыўшы ўсіх рэдакцыйных работнікаў раз'язнымі карэспандэнтамі. На гэтым рэдакцыя палічыла перабудову сваёй работы скончанай.

На справе нічога не змянілася.

Пад шырмай фармальнай перабудовы рэдакцыя прадаўжае працаваць па-старому, старымі метадамі.

Праўда, нельга сказаць, што работнікі дрысенскай газеты не бываюць у калгасах. Цяпер, у дні сяўбы, у рэдакцыі асталіся толькі рэдактар і сакратар. Але што-ж робяць работнікі рэдакцыі — раз'язныя карэспандэнты? У іх адна задача — сабраць матэрыял, каб забяспечыць выхад газеты.

Работнікі рэдакцыі імчацца галопам па калгасах, ледзь паспяваючы запісаць у праўленнях тыя ці іншыя факты. За адзін дзень работнік дрысенскай газеты наведвае мінімум 5-6 калгасаў, з кожнага калгаса па заметцы—і газета запоўнена.

Якія-ж вынікі ад такіх, з дазволу сказаць, метадаў работы?

Работнік газеты «Звязда на рубяжы» **М. ЗУБАРЭВІЧ** прыбыў у калгас «Профінтэрн». Кароткая гутарка з старшынёй... Факты запісаны... Усё.

Праз два дні — 13 красавіка — у газеце з'яўляецца заметка пра калгас «Профінтэрн». Кіраўніцтву калгаса пяюцца хвалебныя гімны: узарана 87 гектараў, засеяна 15 гектараў аўса, сеюць толькі пратручаным насеннем, працуюць інспекцыі якасці, правільна расстаўлены сілы, адным словам, «раўняйцеся па калгасу «Профінтэрн».

Але ўжо на трэці дзень аказалася, што заметка была ашуканчай. Аказваецца ў калгасе «Профінтэрн» сеялі непратручаным аўсом, груба ігнаруючы элементарныя правілы агратэхнікі.

Старшыня калгаса быў прыцягнут да судовай адказнасці. І вось газеце прыходзіцца пісаць пра калгас «Профінтэрн» ужо ў зусім іншым тоне.

Тое-ж самае здарылася і з матэрыяламі аб малочна-таварнай ферме калгаса «Новая культура» (Боркавіцкі сельсовет). На гэты раз М. Зубарэвіч паехаў за матэрыяламі не адзін, а разам з прадстаўніком рэдакцыі газеты «Калгаснік Беларусі» **З. ЕРМАКОВЫМ**. Не паскупіліся хлопцы на радкі, занялі ў газеце «Звязда на рубяжы» матэрыяламі аб ферме палову паласы (нумар за 17 красавіка).

Усё апісалі падрабязна: і свае прыгоды па дарозе да фермы, і які выраз твару быў у даглядчыц кароў. Падрабязна спыніліся на вывешаных правілах догляду кароў, запісалі ўсю сваю гутарку з кіраўнікамі калгаса. Забылі толькі пра «дробязь» — паглядзець, што-ж уяўляюць сабой каровы ў калгасе «Новая культура», як іх даглядаюць. А пацікавіцца гэтым трэба было, бо каровы ў калгасе «Новая культура» даглядаюцца зусім дрэнна, у кароўніку — непралазная граззь. Аб гэтым рэдакцыя даведалася толькі пасля выхаду газеты і не ад свайго карэспандэнта, пісаўшага пра ферму, а ад раённых работнікаў. Гастралёрства, павярхоўнасць сталі стылем работы супрацоўнікаў дрысенскай газеты.

Старонкі газеты да канца красавіка запаўняліся павярхоўнымі інфармацыйнымі заметкамі: такі і такі калгас засеяў столькі і столькі, а такі адстае і т. д.

Не лішнім будзе напомніць работнікам газеты «Звязда на рубяжы» словы з даклада тав. Постышэва на 2-м злёце рабселькораў Харкаўскай вобласці, аб тым, што «рабселькоры... самі ў першую чаргу павінны ўваходзіць у самыя драбнейшыя дэталі агратэхнікі і арганізацыі калгаснай вытворчасці». Гэтыя ўказанні т. Постышэва адносяцца не толькі да рабселькораў, але і да газетных работнікаў.

---

На рэдакцыйным стале ляжыць тоўстая папка рознастайных папер. Гэта адказы розных раённых устаноў на заметкі, якія пасылаюцца рэдакцыяй на расследванне. Калі заметку нельга змясціць у газеце, яе пасылаюць на расследванне. Рэгулярна праз тыдзень пасылаецца ўстанове напамінак, а яшчэ праз тыдзень — другі. Нарэшце, прыходзіць адказ. Папера падшываецца і справа лічыцца скончанай.

Адказы ўстаноў на селькораўскія заметкі чытае толькі тэхнічны сакратар. Кіруючыя работнікі рэдакцыі гэтай справай зусім не цікавяцца. Няўважлівыя, фармальныя адносіны рэдакцыі да рэагавання на рабселькораўскія заметкі прыводзяць да таго, што дзесяткі пісем астаюцца без адказу. Многа бюракратычных адпісак ад паасобных раённых арганізацый прымаюцца за чыстую манету і спакойна падшываюцца «да справы».

Па заяве работнікаў газеты «Звязда на рубяжы» лепш за ўсё рэагуе на заметкі раённая пракуратура. Мы прагледзелі ўсе адказы пракуратуры, атрыманыя з пачатку года. Тры чвэрткі гэтых адказаў ёсць паведамленні пракурора аб тым, што такая і такая заметка перасылаецца для расследвання следчаму ці ў нарсуд. Здавалася, што рэдакцыя павінна была пацікавіцца далейшым лёсам заметак, пацікавіцца тым, што-ж зроблена следчым, нарсудом. Але аб гэтым газета нават і не думае.

---

У нашым артыкуле закрануты тры пытанні работы газеты «Звязда на рубяжы»: работа з рабселькорамі, перабудова работы самай рэдакцыі і барацьба за дзейснасць селькораўскіх пісем.

Гэтыя тры найбольш важныя галіны работы з'яўляюцца зараз, на жаль, і найбольш слабымі месцамі ў рэдакцыі дрысенскай газеты, што «Звязда на рубяжы» павінна поўнасцю выправіць у сваёй далейшай рабоце.

*Да вынікаў нарады рэдкалегій нізавых газет*
*і рабкораў бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната*

# Шматтыражка „За ўдарныя тэмпы“ як яна ёсць

**◆ Выраб экспартных матэрыялаў, стандартных дамоў, матэрыялаў па спецыяльнаму заказу калінінскага вагона-будаўнічага завода і т. д. робяць Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат прадпрыемствам усесаюзнага значэння. ◆ На камбінаце, дзе працуе звыш 4.000 рабочых, налічваецца 400 рабкораў, выходзіць шматтыражка «За ўдарныя тэмпы», 55 насценных газет. ◆ Гэта магутная сіла ў руках партарганізацыі магла-б адыграць выключную ролю ў выкананні ўсіх паказальнікаў промфінплана пры ўмове, калі-б яна была накіравана па правільнаму шляху, калі-б гэтай арміяй рабкораў і нізавымі газетамі па-большэвіцку кіравалі. ◆ А вось гэтага кіраўніцтва нізавым друкам і рабкорамі на камбінаце і няма. ◆ Гэта ярка паказала праведзеная нашым журналам нарада рэдкалегій насценгазет і рабкораў камбіната. ◆ Матэрыял аб рабоце шматтыражкі і нізавога друку камбіната і даем мы зараз.**

Запытайцеся ў работнікаў Бабруйскага лесакамбіната, у рэдактара шматтыражкі **«За ўдарныя тэмпы»** т. **ЛУНІНА** аб становішчы камбіната, і яны вам адкажуць: за апошнія чатыры месяцы промфінплан выканан на 102 проц., па экспарту—на 101 проц. Асобныя цэхі 4-месячны план перавыканалі.

Але за гэтымі колькаснымі паказальнікамі хаваецца рад буйнейшых прарываў на камбінаце. Адзін з асноўных цэхаў — беладрэўны, дзе сканцэнтравана самае лепшае абсталяванне, план якога складае 25 проц. усёй вытворчай праграмы камбіната, выканаў промфінплан 1-га квартала толькі на 70,4 проц., а за красавік—на 87 проц.

Лесацэх № 1 за люты выпусціў у брак (на дровы) 1.370 кубаметраў лесаматэрыяла, з якога па меншай меры магло-б выйсці 800 куб. дошак першага гатунку. Іры выкатцы на бераг лес не сартуюць, без разбору валяць у адну кучу, а потым адпраўляюць канвеерам у распіловачны цэх любое трапіўшае пад рукі бервяно. Адсюль і вялікі працэнт браку. Па грубому падліку выходзіць, што толькі адзін лесацэх за год пускае ў адыход 9.500 кубаметраў дошак. А такіх лесацэхаў на камбінаце тры.

Цэх стандартных дамоў (дзе, як заяўляе рэдактар шматтыражкі, выходзіць лепшая на камбінаце штодзенка) выпусціў 50 некамплектных дамоў.




**РАБКОРЫ - УДАРНІКІ БАБРУЙСКАГА ДРЭВААПРАЦОЎЧАГА КАМБІНАТА. Злева—рэдактар насценгазеты тав. Беразоўскі; справа—рабкор-ударнік тав. Іваноў.**

За першы квартал сабекошт прадукцыі па камбінату павысіўся на 8,5 проц., затаварванне дайшло да 3 мільёнаў рублёў, цякучасць рабочай сілы дасягнула 9 проц.

На барацьбу за ліквідацыю гэтых прарываў, за рашучае паляпшэнне работы ўсіх цэхаў камбіната партарганізацыя і шматтыражка «За ўдарныя тэмпы» павінны былі мабілізаваць нізавыя газеты і рабкораў.

На ініцыятыве рэдкалегій насценгазет цэха стандартных дамоў і неабрэзнага ўчастка партком камбіната абвясціў з 26 лютага па 5 мая (Дзень друку) кон-

курс імя 200 нумара газеты «За ўдарныя тэмпы» на лепшую штодзенку. 26-га лютага камбінацкая шматтыражка паведамляе ўмовы конкурса. Для прэміравання лепшых рэдактароў выдзяляюцца чатыры прэміі на суму 375 руб.

Абвяшчэнне конкурса абавязвала партарганізацыю камбіната і, у першую чаргу, рэдкалегію шматтыражкі наладзіць сістэматычную работу з рэдактарамі шматтыражак і рабкорамі, палепшыць кіраўніцтва нізавымі газетамі.

Але ні партком, ні рэдактар шматтыражкі т. Лунін не зразумелі таго, што мала абвясціць конкурс, што конкурс трэба арганізаваць, штодзённа апэратыўна кіраваць спаборніцтвам газет. Шматтыражка звяла сваю ролю ў конкурсе толькі да змяшчэння час-ад-часу пад загалоўкам «Да 200 нумара «ЗУТ» заметак аб рабоце асобных штодзенак. Масавай, арганізатарскай работы ў цэхах, з рэдкалегіямі штодзенак, рабкорамі ні шматтыражка, ні партком не праводзілі.

Пачнем з таго, што на камбінаце штодзенак фактычна няма і па сёнешні дзень. А тав. Лунін лічыць, што ў цэхах выходзіць 55 штодзенак. Ён нават пералічыць іх можа: у лесацэху № 1—5, лесацэху № 2—4, лесацэху № 3—4, беладрэўным цэху—9, цэху стандартных дамоў—4, на біржы піламатэрыялаў—7 участковых газет, электрастанцыі—4, базе сыравіны—2, штодзенкі ў механічнай майстэрні, гаражы, на конным транспарце, у сталоўцы, канторы і т. д. Але ўся бяда ў тым, што з гэтых 55 газет толькі газета брыгады Ўселюбскага і газета каапгаса выходзіць больш менш рэгулярна. Астатнія газеты выходзяць раз у 3-5-10 дзён і нават раз у месяц (сталоўка).

У рэдакцыі шматтыражкі тры работніка: **Лунін**—рэдактар, **Грыныштэйн**—яго намеснік, літработнік **Казека** (вучань ФЗВ, у рэдакцыі працуе толькі палову дня). Плана работы ў рэдакцыі няма. Галоўная праца работнікаў—хадзіць па цэхах і збіраць матэрыял для чарговага нумара шматтыражкі. Як працуюць нізавыя газеты—работнікі рэдакцыі не ведаюць.

Прывядзем факты:

— Штодзенка цэха стандартных дамоў—лепшая на камбінаце, — заяўляе тав. Лунін.

А калі мы захацелі азнаёміцца з работай гэтай газеты, то аказалася, што апошні нумар «штодзенкі» вышаў 7 дзён назад. Парторг цэха не ведае нават, хто рэдактар штодзенкі.

26 лютага шматтыражка «За ўдарныя тэмпы» піша, што ў штодзенцы 2-й групы электрастанцыі, якую рэдагуе т. **Крук,** з 33 рабочых прымаюць удзел 26. А сама Крук на нарадзе рэдактароў заявіла, што ў штодзенцы прымаюць удзел толькі 10 рабочых.

17 красавіка шматтыражка паведамляе: «Паўтара месяца штодзенка без рэдактара» (гутарка ідзе аб газеце каапгаса), а на справе газета каапгаса выходзіць рэгулярна і ў сакавіку , і ў красавіку, што і рэдактар т. **КАСЦЕВІЧ** на месцы, і члены рэдкалегіі ёсць.

Колькі рабкораў—зотаўцаў, колькі рабкораў і рэдактароў здалі палітэкзамен па рашэннях XVII партз'езда, колькі рабкораў навучаецца ў палітшколах —на ўсё гэта можна атрымаць у рэдакцыі «За ўдарныя тэмпы» адзін адказ: «Добра не ведаем». А не «добра» таксама не ведаюць.

Як шматтыражка кіруе рэдактарамі нізавых газет і рабкорамі?—Праз злёты рабкораў і шматтыражку—адказвае тав. Лунін. Але за год праведзены толькі два рабкораўскія злёты. Аб адным з гэтых злётаў, на якім стаяла пытанне «вынікі XVII партз'езда і задачы нізавога друку», шматтыражка пісала.

**«Уважліва заслухалі дакладчыка т. Століна. Дэлегаты наладзілі шырокі абмен вопытам і ў сваіх выступленнях ускрылі ўсе недахопы пастаноўкі нізавога друку ў барацьбе за выкананне плана, якасць, праверкі выканання, аховы социялістычнай маемасці і ачыстку камбіната ад класава-варожых элементаў, якіх на нашым прадпрыемстве маецца нямала.**

**...Выказваючыеся ўскрывалі ўсе недахопы вытворчасці, прычыны прарываў...»**

Значыць, пагаварылі і ўсё. Газета нават не палічыла патрэбным сказаць аб тых **канкрэтных** недахопах і прарывах, якія былі ўскрыты на злёце. Злёт праведзен. Недахопы ўскрыты. Даклад аб выніках XVII партз'езда быў, чаго-ж больш?

За ўвесь час конкурса на лепшую штодзенку шматтыражка дала толькі па

вярхоўны паказ работы насценгазет лесацэха № 2 і 3-й групы цэха стандартных дамоў. 2 злёты і два агляды нізавых газет—вось і ўся дапамога шматтыражкі нізавым газетам і рабкорам. Нават на раённыя курсы рэдактароў нізавых газет шматтыражка і партком здолелі паслаць толькі 4 чалавек замест 8. Фактычна-ж на курсах займаліся толькі 2 чалавекі. На самым камбінаце нічога не робіцца для падрыхтоўкі кадраў нізавых газет.

Партком камбіната, партыйныя групы зусім мала займаюцца работай нізавога друку і рабкораў. Шматтыражка аб гэтым піша. 12 сакавіка «За ўдарныя тэмпы» паведамляе, што парторг базы сыравіны **Ляноўскі** не дапамагае ў рабоце насценгазеты. Парторг будаўнічага паддзела **Спявак** заяўляе — «не мая справа займацца штодзенкай, гэта работа цэхкома». У другой групе сушылкі беладрэўнага цэха газета не выходзіць. Усе гэтыя сігналы мы знаходзім на старонках шматтыражкі. Але на гэтыя сігналы ніхто не рэагуе, шматтыражка рэагавання не дабіваецца і ўсё астаецца па-старому.

У беладрэўным цэху спыніўся выхад штодзенак, бо парторг **Марголін** патрабаваў узгадняць з ім загадзя ўсе змяшчаемыя матэрыялы: «каб не прыходзілася так многа займацца рэагаваннем».

Шматтыражка, прыводзячы гэты факт, піша:

**«Дзіўны чалавек Марголін—партарганізатар белцэха... Як бачыце Марголін нядрэнны «рацыяналізатар», яго метадам павінен зацікавіцца партком».**

Вось і ўсё, што газета змагла сказаць пра факт яўнага зажыму самакрытыкі ў беладрэўным цэху. А ў цэху работы з рабкорамі і рэдактарамі штодзенак як не было, так і няма па сёнешні дзень.

Усё гэта сведчыць аб адным: рэдакцыя шматтыражкі «За ўдарныя тэмпы» не перабудавала сваёй работы па кіраўніцтву нізавым друкам і рабкорамі.

**Р. СІМХОВІЧ**

# Прадапошнім пытаннем...

7-га мая на камбінаце праводзіўся партдзень, прысвечаны Дню друку. У беладрэўным цэху, дзе асабліва дрэнна разгорнута работа нізавога друку і рабкораў, пачалі партдзень з пытання... аб прыгараднай гаспадарцы. Доўга спрачаліся аб леташніх непаладках на гаспадарцы, аб уліку працадзён і т. д. Нарэшце, першае пытанне скончана.

— Прадапошняе пытанне, таварышы, гэта ў нас аб Дні друку — абвяшчае старшыня сходу.—Слова атрымлівае рэдактар насценгазеты беладрэўнага цэха Рохліна.

— Штодзенка выходзіць раз у тры дні. Галоўнае, аб чым пісала газета, — гэта аб спаборніцтве і ўдарніцтве.

Вось у асноўным увесь даклад.

— Колькі рабкораў прымае ўдзел у газеце?

— Усю газету пішу сама.

— Як кіруе шматтыражка? Ці заслухоўвала партгрупа даклад аб рабоце газеты?

— Ні разу. Дапамога слабая.

— Назавеце пару канкрэтных фактаў, якія газета ўзнімала і даводзіла да канца.

—Роза Шульман—станкавая выпускала брак. Комсамольская ячэйка і прафарганізацыя заняліся гэтым пытаннем, а мы таксама напісалі ў газету.

— Напісалі, пасля таго, як ужо былі прыняты меры?

— Пасля.

— А больш фактаў?

— Не памятаю. Каб сказалі мне раней аб гэтым, я падрыхтавала-б больш падрабязныя матэрыялы.

Рабкоры ў сваіх выступленнях выкрылі прычыны дрэннай работы цэхавай газеты. Яны крыюцца ў простай недаацэнцы парткомам значэння бальшэвіцкага друку, у адсутнасці ўсякай адказнасці шматтыражкі за работу нізавых газет. Рабкоры прыводзілі рад фактаў сістэматычнага зрыву выпуску насценгазет і слабага рэагавання на заметкі.

— Пісалі пра поўную бяздзейнасць сакратара ячэйкі Лахмана і ніхто на гэта не звярнуў ніякай увагі. Хто-ж будзе пасля гэтага пісаць у газету?—таво-

рыць т. **Пінчук.** Рабочы **Юман** расказаў аб тым, што ў зборачным аддзяленні пер шай групы насценгазета перастала выходзіць: «Комсамолец Булацкі—член рэд калегіі—бяздзейнічае. Партарганізатар на ўсё гэта не рэагуе.

— Я быў раней рэдактарам штодзенкі,—гаворыць комсамолец **Пінчук,** — і цікавіўся гэтай работай. Добра працаваў я да таго часу,пакуль мною кіравалі. Зараз работа газеты занялала. Дапамогі ніякай няма.

— Становішча нізавога друку і кіраўніцтва рабкорамі на камбінаце сведчаць аб неразуменні парткомам значэння бальшэвіцкага друку, значэння пролетарскай крытыкі і самакрытыкі—падкрэсліў пры сутны на сходзе сакратар Бабруйскага райкома КП(б)Б т. **МІЛЛЕР.**

Яшчэ горш быў праведзен партдзень у іншых цэхах. Напрыклад, у лесацэху № 1 партдзень аб Дні друку звялі да даклада газетнага бюро аб ходзе падпіскі на газеты.

Аб дрэнным кіраўніцтве парткома нізавым друкам і рабкорамі гаворыць хоць-бы такі факт, што за год толькі адзін раз была заслухана справаздача рэдактара шматтыражкі Луніна.

Так «кіраваць» нізавым друкам і рабкорамі, значыць страціць пачуццё адказнасці за даручаную партыяй справу на такім адказнейшым участку работы.

**РУСЕЦКІ**
рэдактар насценгазеты лесапільнага цэха № 1

# Ніякай увагі, ніякага кіраўніцтва

Пры рэдакцыі раённай газеты «Комуніст» былі праведзены каротка-тэрміновыя курсы рэдактароў нізавых газет. Скончыўшы гэтыя курсы, я пачаў у цэху арганізоўваць работу насценгазеты. Выпускаў у сваёй групе дзве газеты ў пяцідненку. Але карысці ад гэтых газет было мала, бо як толькі з'явіцца заметка аб недахопах, або каго-небудзь пракрытыкуеш, то і газеты праз 2-3 гадзіны няма. Яе зрываюць. Рэагуюць на сігналы газеты дрэнна, таму рабкоры не хочуць і пісаць у газету. Ні партарганізацыя, ні шматтыражка не заняліся гэтым пытаннем.

У рабоце мне ніхто не дапамагае. Калі я, як рабкор, скончыў маленькія курсы, то гэта не значыць, што я ўжо ўсё ведаю і сам магу справіцца з усёй работай. Мне патрэбна сістэматычная дапамога ад партарганізацыі, цэхкома, шматтыражкі. А яе няма.

— Ці бывае калі-небудзь рэдактар шматтыражкі ў цэху?

— Чаму не бывае, прыходзіць запытаць ці выпусціў газету і ўсё. А калі не, то скажа: «Трэба газетку выпусціць».

А ў трэцяй групе лесапільнага цэха № 1 газета не выходзіць зусім, бо там няма яшчэ рэдактара.

Ці-ж гэта называецца дапамогай?

**СЕНЬКОЎ**
Рабкор Беладрэўнага цэха.

# Насценгазету робіць адзін чалавек

Наш беладрэўны цэх план першага квартала выканаў толькі на 70 проц., а за красавік—на 87 проц. Многія тлумачаць гэта тым, што яшчэ не асвоена вытворчасць і не хапае сыравіны. Праўда, з-за адсутнасці сыравіны бываюць перабоі. Але не толькі ў гэтым прычыны невыканання плана. У нас арганізацыя працы і расстаноўка сіл яшчэ таксама дрэнная. Бываюць выпадкі, калі рабочыя робяць прастоі, бо не падаюцца своечасова цвікі, абшыўка, а гэтага магло-б не быць пры правільнай арганізацыі працы.

А што робіць у нас насценгазета? Нічога. Работы з рабкорамі ніякай няма, партколектыў рабкорамі слаба кіруе. Насценгазета робіцца без удзелу мас, піша яе адзін чалавек. Не арганізавана і вучоба рабкораў: рабкоры яшчэ добра не ведаюць рашэнняў XVII з'езда партыі.

У нас лічаць, што калі праведзен злёт рабкораў (адзін—два разы ў год), то гэта добрае кіраўніцтва. А я сказаў-бы, што калі няма сістэматычнай работы з рабкорамі і не наладжана вучоба рабкораў, то гэта ёсць кіраўніцтва «наогул».

**КРУК АННА**
рэдактар газеты брыгады Ўселюбскага.

# ЯКОЙ ДАПАМОГІ Я ЧАКАЮ



На старонках журнала «Бальшэвіцкі друк», я хачу выказаць сваю думку аб рабоце нізавога друку і кіраўніцтве ім. Рэдактарам насценгазеты брыгады Ўселюбскага (электрастанцыя бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната) працую я ўжо цэлы год. Рэдкалегіі ў нас няма. Адной прыходзіцца правяраць матэрыял, збіраць яго і весці работу з рабкорамі. На электрастанцыі — усяго 10 рабкораў, якія прымаюць удзел у насценгазеце. Матэрыял у газету арганізоўваю так: іду ў цэх, гутару з рабочымі. Яны перадаюць мне аб заўважаных недахопах, аб тым, што перашкаджае ў іх рабоце. Асобныя рабочыя (праўда, рэдка) падаюць заметкі і ў пісьмовай форме. Многія рабочыя не пішуць проста таму, што ад адміністрацыі станцыі яны не атрымліваюць ніякага адказу рэагавання на заметкі. Гэтым, безумоўна, падрываецца работа газеты.

Трэба сказаць, што як начальнік цэха, начальнік станцыі, так і цэхком у большасці не чытаюць свайё насценгазеты. Шматтыражка таксама вельмі мала дапамагае. За год, як я працую рэдактарам, толькі два разы склікаліся нарады рабкораў усяго камбіната, але і там прысутнічала вельмі мала рабкораў. Частка не ведала нават аб гэтай нарадзе.

Работа з рабкорамі, а асабліва з рэдактарамі шматтыражак не праводзілася. Указанняў, як арганізаваць работу, як уцягнуць у работу газеты рабочую масу, таксама не было. Мне самой цяжка, бо я яшчэ нявопытная ў газетнай рабоце. Курсаў рэдактароў не праходзіла, інструктажу з боку шматтыражкі не было. Быў толькі агляд нашай газеты ў шматтыражцы, які таксама не паказаў, як трэба працаваць, паводле агляду выходзіць, што ў мяне ўсё добра.

Што прымусіла мяне напісаць аб усім гэтым? Калі журналам «Бальшэвіцкі друк» з удзелам раённай газеты «Камуніст» праводзілася ў нас нарада рэдактароў і рабкораў, калі ў вусным аглядзе нашай шматтыражкі было ўказана на ўсе недахопы ў яе рабоце, я зразумела, што ў маёй газеце ёсць шмат недахопаў, аб якіх мне яшчэ ні разу не гаварылі. Таму праз журнал «Бальшэвіцкі друк» звярачаюся да рэдактароў штодзёнак, каб яны выказаліся аб тым, як яны лічаць неабходным арганізаваць работу ў штодзёнцы, як наладзіць лепшае кіраўніцтва рабкорамі, а асабліва якой дапамогі рэдактары нізавых газет чакаюць ад шматтыражак, раённага і цэнтральнага друку.

У прыватнасці, я лічу, што для лепшага кіраўніцтва нізавым друкам неабходна было-б устанавіць на кожнай фабрыцы і заводзе дзень рабкора і дзень рэдактарскай вучобы. У нас, напрыклад, не ўсе рабкоры і рэдактары ахоплены вывучэннем рашэнняў XVII партз'езда. А без ведання рашэнняў з'езда рабкор і рэдактар не могуць з'явіцца камандзірамі пралетарскай грамадскай думкі, намочнікамі партарганізацыі ў рэалізацыі рашэнняў з'езда.

Я лічу таксама неабходным, каб на старонках раённых газет і нават цэнтральных адзін раз у пяцідзнеўку змяшчаўся куток рэдактара нізавой газеты, дзе можна было-б навучыцца, як скласці план работы газеты, як афармляць газету і т. д. На старонках шматтыражкі трэба больш практыкаваць паказ работы рабкораў, паказ работы насобных газет, чаго да гэтага часу ў нас не было. Трэба шматтыражцы дапамагчы ў адным цэху добра наладзіць работу насценгазеты, а потым вопыт яе работы перанесці ў астатнія цэхі, арганізаваць курсы рэдактароў, друкаваць агляды насценгазет, асабліва ўказваючы, як выправіць недахопы.

С. АНЦІПЕНКА Г. МАЛІНІН



# За бальшэвіцкую работу газет з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных

«Некаторыя таварышы пічаць, што за апошні час рабселькораўскі рух стаў глухнуць. Няверна гэта. Гэта ворагі і апартуністы ўзводзяць паклёп на рабселькораўскі рух. Рабселькораўскі рух, як рух перадавых байцоў за соцыялістычную будоўлю, наадварот, вельмі ўмацаваўся і прадаўжае расці і развівацца. Але работа з рабселькорамі нашых партыйных арганізацый, партыйных камітэтаў і Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ ОРГАНАЎ ДРУКУ некалькі заняпала ў апошні час. Гэта верна».

(З даклада тав. ПОСТЫШЭВА на злёце рабселькораў Харкаўшчыны).

Рабселькораўскі рух БССР безупынна расце і развіваецца. Надзвычай вырасла палітычная актыўнасць рабселькораў. З кожным днём павялічваецца прыток у цэнтральны і нізавы друк карэспандэнцый рабселькораў і пісем працоўных па ўсіх пытаннях соцыялістычнага будаўніцтва. Але нашы газеты нездавальняюча скарыстоўваюць узросшую актыўнасць рабселькораў, арганізацыйна не замацоўваюць гэтага росту, слаба кіруюць рабселькорамі.

**«Рэдакцыі і парткомы газет «Звязда», «Рабочий», «Калгаснік Беларусі», «Чырвоная змена» гэтаму важнейшаму і адказнаму ўчастку сваёй работы не ўдзялялі неабходнай увагі.**

**...Рашэнне ЦК КП(б)Б ад 16 красавіка 1933 года і ўказанні камісіі па чыстцы партыі не выкананы»**—такая зусім правільная ацэнка дана Бюро ЦК КП(б)Б рабоце цэнтральных газет з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных.

Папярэднія матэрыялы правадзімага зараз дэкадніка друку гавораць аб тым, што і раённыя газеты БССР з рабселькорамі, з пісьмамі працоўных працуюць таксама нездавальняюча.

Трэба памятаць, што сіла нашага бальшэвіцкага друку ў яго партыйнасці і масавасці. Друк прокладвае,—гаворыць т. Сталін,—«няўлоўную сувязь паміж партыяй і рабочым класам, сувязь, якая па сваёй сіле раўняецца любому перадатачнаму апарату масавага характару». Для таго, каб гэта няўлоўная сувязь паміж партыяй і рабочым класам была мацнейшай і лепшай, для таго, каб кожная наша бальшэвіцкая газета была жывой і аператыўнай, тав. Ленін патрабаваў даць «шырэй рабочым магчымасць пісаць у нашы газеты, пісаць аб усім абсалютна, пісаць як мага больш аб штодзенным сваім жыцці, інтарэсах і рабоце».

Апарат рэдакцыі газеты ніколі не можа замяніць шматтысячную армію рабочых і калгаснікаў. Ні адна наша газета не можа быць сапраўды бальшэвіцкім арганізатарам, калі ў яе на пяток сваіх кваліфікаваных газетчыкаў не будзе прыпадаць некалькі соцень, некалькі тысяч рабочых і сельскіх карэспандэнтаў.

Аднак, цэнтральныя газеты БССР у рабоце з рабселькорамі дапусцілі самацёк, у рабоце з карэспандэнцыямі рабселькораў і з пісьмамі працоўных яшчэ не зжылі фармалізма.

Прывядзем факты з матэрыялаў праверкі работы цэнтральных газет з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных.

Зусім слаба кіруе рабселькорамі газета **«Рабочий»**. З усёй сваёй арміі рабкораў, за выключэннем рэдактароў шматтыражак, рэдакцыя не можа назваць ні адной кандыдатуры для вылучэння на адказную кіруючую работу ў свой апарат. Не працуюць з рабселькорамі аддзелы рэдакцыі. «Рабочий» не арганізаваў ні курсаў, ні гурткоў-семінараў для рабкораў хоць-бы на буйнейшых прадпрыемствах нашай рэспублікі. А між тым ад работы з рабселькорамі залежыць паляпшэнне работы нашага друку.

Тав. **Стэцкі** ў сваім дакладзе на агульна-маскоўскім сходзе рабкораў і работнікаў друку звярнуў асаблівую ўвагу на

кіраўніцтва рабселькорамі і ідэйна-выхаваўчую работу з імі. Работу з рабселькорамі трэба арганізаваць так, каб выхоўваць з лепшых ударнікаў-рабкораў газетных работнікаў. «Газеты павінны,—гаворыць тав. Стэцкі,—выяўляць рабкораўскі актыў, выхоўваць падрыхтаваных, ведаючых работнікаў бальшэвіцкага друку». Але газета «Рабочий» гэтага не робіць.

«Рабочий», каб узняць дзейснасць рабочых пісем, выдае адзін раз у дэкаду друкаваны бюлетэнь рабочых пісем. Выданне гэтага бюлетэня з'яўляецца безумоўна патрэбнай і каштоўнай ініцыятывай рэдакцыі. Гэты вопыт заслугоўвае таго, каб яго перанялі і другія цэнтральныя газеты. Першае месца ў бюлетэні займаюць пісьмы працоўных на вытворчыя тэмы, аб выпуску нядобраякаснай прадукцыі, бракаробах. Многа змяшчаецца пісем аб рабоце кааперацыі, дзяржаўнага гандлю і культурна-бытавым абслугоўванні рабочых. Але бюлетэнь мае і свае недахопы. Галоўны яго недахоп у тым, што рэдакцыя не дабілася яшчэ рэагавання на ўсе змешчаныя ў ім пісьмы, і таму многія пытанні, узнятыя ў пісьмах рабочых, не даводзяцца да канца. У прагледжаных нумарах бюлетэня з 2-га лютага па 13 красавіка рэдакцыя ні разу не ўзняла пытання аб тых установах і работніках, якія не рэагуюць на змешчаныя і пасланыя на расследванне пісьмы працоўных.

Работа з пісьмамі рабочых і калгаснікаў, барацьба за іх дзейснасць з часу выпуску бюлетэня не палепшыліся. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы: з 16-га студзеня па 20-е красавіка 1934 года паступіла ў рэдакцыю 2127 пісем. З іх надрукавана ў газеце і бюлетэні 882. Паслана на расследванне разам з апублікаванымі пісьмамі 1484. Атрыманы адказы аб прынятых мерах 402. Як бачым, за гэты кароткі час 1082 пісьмы асталіся без усякага рэагавання. **421 пісьмо здана ў архіў.**

Загадчык аддзела пісем тав. **Клепко** прабавала даказаць, што «ў архіў здаюцца толькі тыя пісьмы, па якіх зроблена абследванне і прыняты меры». Адпак, выяўлена, што многія пісьмы накіроўваюцца ў архіў механічна і што большая іх частка патрабавала ўзняцця на прынцыпова-палітычную вышыню. Прывядзем некалькі з многіх фактаў.

У лютым рабочы г. Шклова тав. **Дратвер** звярнуўся ў рэдакцыю з пісьмом аб нячулых адносінах да яго старшыні жакта Снітко і супрацоўніка горсовета Сохрына ў справе прадастаўлення яму кватэры, або рамонту старой. Будынак, у якім жыве тав. Дратвер, пагражае абвалам і пажарам. Усе яго просьбы і сігналы асталіся непачутымі. Больш таго, старшыня жакта Снітко некалькі раз выганяў Дратвера і яго жонку з праўлення. Рэдакцыя накіроўвае пісьмо на расследванне і атрымлівае адказ, што «грубасці з боку Снітко не было, а Дратверу будзе прадастаўлена новая кватэра». Рэдакцыя задаволілася гэтай чыноўніцка-бюракратычнай адпіскай, і пісьмо Дратвера накіравана ў архіў. Аўтару пісьма пасылаецца наступны адказ: «першага красавіка ваш дом будзе перадан ваенкамату, а да гэтага часу ўсім жыхарам вашага дома, у тым ліку і вам, будуць прадастаўлены новыя кватэры». Рэдакцыя, як відаць, да пісьма аднеслася фармальна. Пісьмо па гэты дзень ляжыць у архіўнай папцы, але ці атрымаў тав. Дратвер кватэру—рэдакцыя газеты «Рабочий» не ведае.

Артыстка БелДАМЕЦ'а тав. **Бандарчык** у сваім пісьме ў рэдакцыю скардзілася на чыноўніцкія адносіны да яе з боку персанала Менскай і Барысаўскай станцый. Бандарчык незаконна аштрафавалі на 14 руб. «за безбілетны праезд». На самой-жа справе ехала Бандарчык з білетам, але на ім касір забыў паставіць чысло. 23 сакавіка рэдакцыя пасылае тав. Бандарчык наступны адказ: «Намеснік начальніка станцыі Менск тав. Панькоў прасіў паведаміць вас, што штраф, спагнаны з вас 5-1, можа быць вернут. Заходзьце з гэтай адносінай да тав. Панькова». Замест патрабавання прыцягнуць чыноўнікаў, бюракратаў з чыгункі да адказнасці, рэдакцыя гэта пісьмо з вывадамі праверкі паслала ў архіў. Вінаватыя і па гэты дзень не пакараны.

Група рабочых завода «Чырвоны Окцябр», Аршанскага раёна, у сваім піс-

ме выкрыла рад момантаў зажыму самакрытыкі з боку адміністрацыі і партківраўніцтва завода. «Слесар Сварчкоў,— пісалі рабочыя,—за крытыку быў пераведзен у конюхі». Сакратар парткома Зарэцкі забараніў рэдактару газеты змясціць матэрыял, які выкрываў злачынствы старшыні ЗРК. Гэта пісьмо было адаслана ў Аршанскі РК КП(б)Б. Інструктар райкома тав. Даговіч паведаміў рэдакцыі, што факты ўсе пацвердзіліся і гэта справа стане прадметам абгаварэння райкома. Да гэтага часу невядома, якія меры былі прыняты РК. На працягу 3-х месяцаў гэты матэрыял ляжыць у архіўнай папцы рэдакцыі.

Рабочыя арцелі «Точнай механікі» скардзіліся ў сваім пісьме на беспадстаўнае пазбаўленне майстэрні электрычнага асвятлення, з прычыны чаго работа майстэрні ўвесь час зрывалася. Рабочыя патрабавалі «ўмяшання вышэйшых органаў з прыцягненнем вінаватых да адказнасці». 10 красавіка рэдакцыя насылае адказ аўтарам пісьма: «Па вашаму допісу прыняты меры. З 26 красавіка святло будзе ўключана». Матэрыял здан у архіў, але вінаватыя ў зрыве снабжэння майстэрні электрасвятлом не пакараны.

Прычыны такога становішча работы з пісьмамі крыюцца ў нечулых і неўважлівых адносінах да кожнага пісьма працоўнага, да кожнай заметкі рабселькора. Кіраўніцтва рэдакцыі і партком ніякіх канкрэтных мер не прынялі, каб палепшыць працу аддзела рабочых пісем. Партком рэдакцыі ў сваёй пастанове ад 28 лютага г. г. канстатаваў, што загадчык прамысловага аддзела **Шыфрын** і работнік рэдакцыі **Скапец** сістэматычна адсылаюць каштоўнейшыя пісьмы ў архіў, не адказваючы рабкорам, і т. д. Але партком у адносінах Шыфрына і Скапца «рэагуе» так: «Даручыць тт. Хейфецу і Фішбейну ў адносінах да работнікаў, якія будуць падобным чынам адносіцца да рабкораўскага матэрыяла, прыняць меры аж да паніжэння ў акладзе і звальнення з работы». Пісаніна гэта так і асталася на паперы.

Зусім не дзіўна таму, што **сувязь з рабкорамі даручана ў газеце «Рабочий» літпраўшчыку Качэтаву,** што сектар рабочых пісем у рэдакцыі ўкамплектован людзьмі, якія няздольны забяспечыць рэалізацыю пастаноў партыі аб чулых і ўважлівых адносінах да кожнага пісьма працоўнага, да кожнай заметкі рабселькора.

Не праводзіць сістэматычнай выхаваўчай работы з рабселькорамі і газета **«Калгаснік Беларусі».** Тут на ўчоце лічыцца 1200 рабселькораў, але масавая работа з імі па лініі рэдакцыі не арганізавана. «Калгаснік Беларусі» мае зараз звыш 4.000 завочнікаў агратэхкурсаў з лепшага, праверанага вытворчага актыва калгасаў. Гэты актыў патрэбна было-б газеце ў першую чаргу ўцягнуць у селькораўскія рады. Рэдакцыя так і думае зрабіць, але толькі думаць мала. Патрэбна арганізаваць работу з гэтым актывам, завязаць перапіску з ім, наладзіць вучобу. У «Калгасніку Беларусі» не толькі работа з рабселькорамі пушчана на самацёк, але аслабла і ўвага рэдакцыі да рабселькораўскіх заметак і да пісем працоўных.

З паступаючых штомесячна ў «Калгаснік Беларусі» 700-800 пісем і заметак 70-75 проц. скарыстоўваюцца толькі ў парадку расследвання. Рэдакцыя ў пачатку 1933 года практыкавала выезды сваіх работнікаў спецыяльна для расследвання на месцы важнейшых пісем і заметак. У васьмі раёнах праводзіліся рэйды па праверцы рэагавання на пісьмы і заметкі. Але ў апошнія месяцы правядзенне гэтых каштоўнейшых мерапрыемстваў амаль спынена. Недапушчальна рэдка за гэтыя 3-4 месяцы змяшчаюцца пісьмы і ў газеце. У студзені надрукавана 8 пісем, у лютым—2, у сакавіку—2. Такое-ж становішча і з апублікаваннем рэзультатаў расследвання пісем і рабселькораўскіх заметак. Ёсць выпадкі марынавання заметак і пісем па 10 і па 25 дзён

работнікамі сектароў рэдакцыі. У красавіку месяцы асталіся нескарыстанымі па лініі сектароў 23 заметкі, за першую палову мая замарынавана 31 заметка.

У пісьмовай сувязі з рабселькорамі рэдакцыя дапускае трафарэтнасць і фармалізм. Карэспандэнт **Прымічаў** прысылае ў «Калгаснік Беларусі» заметку «Кармовы план — кожнай ферме». Рэдакцыя адказвае яму:

**«Паважаны тав. Прымічаў!**

**... Лепш было-б, каб вы зрабілі добрую карэспандэнцыю пра кармовы план»... і далей: «Шліце матэрыял па наступных пытаннях...»**

Што дае такога зместу і такой формы перапіска з карэспандэнтам?

Нічога апрача апашлення пісьмовай сувязі рэдакцыі з рабселькорам.

Мы не спыняемся тут на рабоце рэдакцыі **«Чырвонай змены»** з рабселькорамі і іх заметкамі. Аб гэтым падрабязна пісалася ў № 7 «Бальшэвіцкага друку».

У сваёй пастанове ЦК КП(б)Б адзначыў, што і рэдакцыя газеты **«Звязда»** таксама не ўдзеліла неабходнай увагі рабоце з пісьмамі працоўных. Асобныя работнікі «Звязды» недаацэньваюць гэтай работы. У 1933 годзе ў аддзелах «Звязды» асталіся нявыкарыстанымі 563 заметкі.

Вось некалькі прыкладаў безадказных адносін асобных работнікаў да пісем рабочых і калгаснікаў.

7-га красавіка г. г. у «Звязду» паступае калектыўнае пісьмо рабочых Магілёва аб зрыве падзялення чыгуначнікаў агародамі. Аддзел пісем перадае пісьмо тав. **Додзіну** (транспартны аддзел) для скарыстання. Додзін, як відаць, думаў даць у «Звяздзе» падборку, а таму трымаў пісьмо чыгуначнікаў два тыдні. А калі дача падборкі сарвалася, Додзін, нарэшце, 25 красавіка варочае гэта пісьмо ў аддзел пісем з паметкай: «Накіраваць у Магілёў для рэагавання».

К работніку сельгасаддзела «Звязды» тав. **Каплану** трапляе заметка, напісаная пад капірку. Аўтар заметкі—работнік райгазеты. Каплан, не чытаючы заметку, піша:

**«Матэрыял змешчан у райгазеце — у архіў».**

Калі праверачная брыгада запытала ў т. Каплана: «У якой газеце змешчан гэты матэрыял?» — Каплан адказаў:

— Газеты з тэтай заметкай я не чытаў. Але паколькі паступіўшая к нам заметка была напісана пад капірку, то яна будзе і ў райгазеце.

З нязменшай безадказнасцю адносяцца да заметак рабселькораў і да пісем працоўных і самі работнікі аддзела пісем «Звязды».

За перыяд з 1-га студзеня па 1 красавіка аддзел накіраваў без усякіх матывіровак 311 заметак і пісем у архіў.

13 сакавіка ў газету паступіла пісьмо на ўкраінскай мове. Першы радок пісьма гаворыць:

**«По вулиці імя Леніна біля Готеля Еўропи е ідальня промхарча»** (арфаграфія аўтара пісьма. — **С. А.** і **Г. М.**).

Прачытаўшы першы радок, т. Афанасенка слова «Готель» пераклаў на «Гомель» і дадаў да пісьма такую адносіну:

**«ГОМЕЛЬ. «ПАЛЕСКАЯ ПРАЎДА».**

**АДДЗЕЛ ПІСЕМ РАБОЧЫХ І КАЛГАСНІКАЎ.**

**Рэдакцыя «Звязды» накіроўвае вам атрыманае пісьмо гр. Лемберыкмана для скарыстання. Аб скарыстанні паведаміце аўтару.**

**Чытчык-бракоўшчык АФАНАСЕНКА».**

20 сакавіка «Палеская праўда» прысылае гэта пісьмо назад у «Звязду» з такой адносінай (мы даслоўна захоўваем арфаграфію і стыль адносіны «Палескай праўды», бо яны таксама вучаць шмат чаму).

**«АДКАЗНАМУ САКРАТАРУ ГАЗ. «ЗВЯЗДА».**

**ПАВАЖАНЫ ТАВ....**

**Адзел лістоў рэдакцыі «Палеская прэўда» накіроўвае вам абратны ліст памылкова прысланы нам мяркуючы па першаму радку, дзе напісана Отэль і не мае зусім адносін да Гомелю».**

На вялікі жаль, аўтар гэтага зусім бязграматнага адказу не падпісаўся. Але і без яго прозвішча відаць, што і ў аддзеле пісем **«Палескай праўды»** па волі рэдактара т. **Бугрова** сядзяць таксама бязграматныя людзі.

Багацейшыя факты з матэрыялаў праверкі работы цэнтральных газет з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных гавораць аб абсалютнай правільнасці і своечасовасці друкуемай у гэтым нума-

ры журнала пастановы бюро ЦК КП(б)Б па пытанню работы газет з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных. Гэта—важнейшы і адказны ўчастак работы кожнай газеты. Таму практычныя ўказанні Бюро ЦК КП(б)Б па пытанню работы з рабселькорамі і з пісьмамі ў аднолькавай меры адносяцца як да цэнтральных, так і да раённых, палітаддзельскіх, транспартных і фабрычна-заводскіх газет БССР.

Бюро ЦК КП(б)Б абавязала «дэкаднік друку гэтага года правесці пад кутом гледжання максімальнага ўзняцця работы з рабселькорамі і забеспячэння беражлівых і ўважлівых адносін да кожнай заметкі і да пісем працоўных». Пад гэтым кутом гледжання рэдакцыя кожнай газеты павінна праводзіць сваю штодзенную работу і пасля дэкадніка друку.

Мала надрукаваць пісьмо ці паслаць яго на расследванне. Трэба правільна і хутка рэагаваць на факты, аб якіх рабселькор піша. А гэтага яшчэ не разумеюць работнікі некаторых газет.

Брагінская раённая газета **«Трыбуна калгасніка»** амаль у кожным нумары змяшчае пісьмы рабочых і калгаснікаў. Газета рэгулярна вядзе аддзел «Нам пішуць». Пісьмы працоўных займаюць у газеце цэнтральнае месца. У спецыяльна-ўведзеным аддзеле—«Вось прозвішчы тых, хто ігнаруе сігналы нашай газеты» «Трыбуна калгасніка» выкрывае чыноўнікаў, бюракратаў, якія лічаць ніжэй свайго гонару рэагаваць на штодзенныя запатрабаванні працоўных (Сафонаў, Тычына, Чаўчэнка, Качаноўскі і інш.).

Але віна брагінскай райгазеты ў тым, што яна не змагла дабіцца прыцягнення да судовай адказнасці вінаватых у нерэагаванні больш чым на 100 пісем на працягу 2-3 месяцаў. У першую чаргу газета павінна была патрабаваць прыцягнення да адказнасці райпракурора Тычыны, які не толькі не вядзе барацьбы з парушальнікамі неаднаразовых пастаноў НКЮ БССР па гэтаму пытанню, але і сам не рэагаваў на 8 пісем, дасланых яму райгазетай.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 16 чэрвеня 1933 года «аб рабоце з пісьмамі рабочага і калгасніка», указваючы на памылкі раду газет (лагойская, чэрвеньская), прапанаваў усяму друку БССР адвесці цэнтральнае месца на старонках газеты пісьмам працоўных, змагацца за рэагаванне на кожнае змешчанае пісьмо і гэтым самым яшчэ больш уцягнуць у работу бальшэвіцкага друку шырокія масы працоўных.

Аднак, многія газеты не зрабілі для сябе з гэтай пастановы ніякіх вывадаў. Пісьмы рабочых і калгаснікаў на старонках пухавіцкай, асіпавіцкай, ельскай і многіх іншых газет—рэдкі госць. Гэтыя газеты не вядуць ніякай барацьбы за рэагаванне на змешчаныя пісьмы.

З мэтай забеспячэння сапраўды бальшэвіцкай работы газет з рабселькорамі і з пісьмамі працоўных Бюро ЦК КП(б)Б прыняла такія чатыры важнейшыя палажэнні:

1. Ускладзена персанальная адказнасць за работу з рабселькорамі на рэдактароў газет і за работу з пісьмамі працоўных на намеснікаў рэдактароў газет, а ў аддзелах на загадчыкаў аддзеламі.

2. Агульнае кіраўніцтва рабселькораўскім рухам у БССР ускладзена на ЦО ЦК КП(б)Б газету «Звязда».

3. Рэдактарам газет прапанавана ўмацаваць аддзелы пісем палітычна-кваліфікаванымі і арганізацыйна-падрыхтаванымі работнікамі. Для гэтага даручана рэдактарам цэнтральных газет разам з гаркомамі—Менск, Гомель, Віцебск — падабраць і вылучыць рабселькораў на работу ў рэспубліканскі друк.

4. Пракурору рэспублікі даручана забяспечыць нечарговы разгляд усіх спраў аб несвоечасовым рэагаванні на карэспандэнцыі рабселькораў і пісьмы працоўных.

Бальшэвіцкае ажыццяўленне гэтых практычных мерапрыемстваў Бюро ЦК КП(б)Б яшчэ вышэй узніме актыўнасць рабселькораў БССР у вырашэнні задач сацыялістычнага будаўніцтва. А штодзенная практычная работа газет з рабселькорамі і іх пісьмамі яшчэ вышэй узніме **якасць ідэйнай прадукцыі**, якая даецца на старонках нашага бальшэвіцкага друку.

Г. МАЛІКІН

# Кожны радок—у цэль

## „Віцебскі пролетарый“ у барацьбе за дзейснасць друку

Кіраўніцтва рэдакцыі «Віцебскага пролетарыя» патрабавала ад усіх сваіх работнікаў уважліва і чула адносіцца да кожнага пісьма рабочага і калгасніка.

— Работа кожнага працаўніка рэдакцыі,—заявіў рэдактар газеты тав. **КУРЦІК** на вытворчай нарадзе, — будзе ацэньвацца перш-на-перш па яго сувязі з рабочымі і калгаснікамі, па барацьбе за дзейснасць кожнага змешчанага пісьма.

І трэба проста сказаць, што многім раённым газетам ёсць чаму павучыцца ў «Віцебскага пролетарыя» па пастаноўцы работы з пісьмом рабочага і калгасніка. З 1 студзеня па 1 мая 1934 года рэдакцыя «Віцебскага пролетарыя» атрымала 2811 пісем; з іх змешчана 1287, паслана на расследванне 1524. Атрыманы адказы аб прынятых мерах на 1240 пісем. **Ні адно пісьмо не здана ў архіў.** Перш чым пісьмо пападае ў адпаведны сектар, яно ўважліва прачытваецца загадчыкам аддзела пісем і бярэцца на ўчот. Адасланае ў сектар пісьмо лічыцца за тым ці іншым работнікам да таго часу, пакуль пытанне, якое ўзнімаецца ў пісьме, не будзе даведзена да канца.

— Вывучаючы характар паступіўшых пісем,—гаворыць загадчык аддзела пісем,—мы намячаем канкрэтныя мерапрыемствы па закранутых у пісьмах пытаннях. Напрыклад, рабочыя чыгункі ў сваіх пісьмах сігналізавалі аб тым, што на станцыі гадзінамі прастойваюць нагружаныя вагоны, лішні час прастойваюць паязды. Былі нават выпадкі, калі паязды замест Смаленска накіроўваліся ў Ленінград і т. д. Газета правяла па гэтаму пытанню рэйд, у які былі ўцягнуты аўтары пісем і лепшыя рабочыя-ўдарнікі. Гэты рэйд аказаў вялікую дапамогу палітаддзелу чыгункі ў рэалізацыі загаду тав. Андрэева аб своечасовым прыбыцці і адпраўленні паяздоў. Такія-ж рэйды па сігналах пісем рабочых былі праведзены па агляду санітарнага становішча жактаў, двароў, кватэр і т. д.

**Пісьмам рабочых і калгаснікаў адводзіцца ў газеце цэнтральнае месца.** У аддзеле «Па слядах апублікаваных і неапублікаваных пісем» газета вядзе барацьбу з бюракратамі, чыноўнікамі, якія прабуюць адмахнуцца ад рэдакцыі бюракратычнымі адпіскамі. **ЯКАСЦЬ РЭАГАВАННЯ** пастаўлена ў цэнтры барацьбы за дзейснасць кожнага змешчанага і не змешчанага пісьма. Прывядзем некаторыя факты.

Новыя работніцы фабрыкі «КІМ»: тт. Пухта, Кавалеўская, Барадзейка і інш. у пісьме, змешчаным у «Віцебскім пролетарыі», скардзіліся на адсутнасць увагі аддзела кадраў фабрыкі да іх інтэрната. Загадчык аддзела кадраў **БЯЛОЎ** у сваім адказе рэдакцыі абвяргаў усе ўказаныя ў пісьме факты. Рэдакцыя, не задаволіўшыся адказам Бялова, даручыла рабкору фабрыкі т. **МІШКОЎСКАМУ** асабіста пабываць у інтэрнаце. Аказалася, што **«Барадзейка і да сёнешняга дня не мае матраца, а спіць на дошках. Электрычнасці няма. Няма чым вымятаць падлогу. Няма ні адной анучкі, каб выцерці стол. Лампы без шкла, капцяць. Таза для мыцця бялізны таксама няма. Адсутнічаюць газеты... Такім чынам трэба прызнаць,**—заключае газета, — **што адказ, прысланы Бяловым у рэдакцыю, з'яўляецца «очковтирательским». Чакаем рэагавання ад трыкутніка фабрыкі».** Газета не пакінула гэтага пытання да таго часу, пакуль інтэрнат не быў прыведзен у належны парадак.

Рабочы іголкавай фабрыкі тав. **СТУПАНАЎ** у змешчаным у газеце пісьме пісаў аб тым, што рабочыя гартавальнага цэха не ведаюць сваёй штодзеннай выпрацоўкі, што кладаўшчыца **Каган** прымае ад рабочых прадукцыю без усякага ўліку. Адміністрацыя фабрыкі на гэта пісьмо адразу-ж рэагавала. Намеснік дырэктара фабрыкі тав. **АСТРОЎСКІ** паведаміў рэдакцыю, што «прадукцыя, накіраваная ў кладовую, запісваецца ў рабочую картку, і кожнаму рабочаму ў канцы работы выдаецца даведка аб колькасці яго выпрацоўкі за дзень. Кладаўшчыцы Каган за няўважлівыя адносіны да работы зроблена папярэджанне».

«Віцебскі пролетарый» не абмежаваўся адным толькі змяшчэннем адказу адміністрацыі. Газета ўзяла пад свой аса-

бісты нагляд рэалізацыю праведзеных адміністрацыяй фабрыкі мерапрыемстваў па змешчанаму пісьму, уключыўшы ў гэту справу насценгазету цэха:

**«Чакаем ад рэдакцыі насценгазеты паведамлення аб тым, як зараз НА СПРАВЕ выконваюцца тыя мерапрыемствы, аб якіх паведаміў нам тав. Астроўскі».**

У газеце было змешчана пісьмо «Калі на камбінаце будуць наведзены чыстата і парадак». Адміністрацыя камбіната абмежавалася фармальна-бюракратычнай адпіскай: «Прыняты канкрэтныя мерапрыемствы па ўжыванню санітарнага мінімума на тэрыторыі камбіната». Рэдакцыю гэта адпіска не задаволіла, яна патрабавала чоткага і канкрэтнага адказу на змешчанае пісьмо.

**«Чакаем ад дырэкцыі камбіната дадатковага паведамлення, якія канкрэтныя мерапрыемствы ўжо праведзены па ўжыванню санітарнага мінімума, калі канкрэтна будуць установлены два вадаправодныя чаны. Ужо час, таварышы кіраўнікі мясакамбіната, навучыцца адказваць газеце канкрэтна, па-дзелавому».**

Прыведзеныя факты не адзіныя. Гэта—сістэма работы рэдакцыі. Работнікі рэдакцыі непасрэдна на прадпрыемствах правяраюць вынікі і эфектыўнасць змешчанага ў газеце матэрыяла аб рабоце данага прадпрыемства.

Газета здолела дабіцца рэагавання на матэрыялы друку таму, што яна своечасова выкрывае ўсякія моманты праяўлення бюракратызма, бяздушных адносін да пісем працоўных. Так, у 37-м нумары газеты пад загалоўкам **«Вось прозвішчы тых, хто ігнаруе сігналы нашай газеты, хто марынуе адказы на пісьмы рабочых і калгаснікаў»** паказан рад адказных работнікаў: старшыні сельсаветаў, дырэктары заводаў, сакратары партыйных камітэтаў, старшыня горжылсаюза, якія не адказалі на змешчаныя ў газеце пісьмы. Газета патрабавала ад іх «не пазней, як праз тры дні паведамлення, што канкрэтна зроблена па змешчаных у газеце і пасланых на расследванне пісьмах рабочых і калгаснікаў». Рэдакцыя тут-жа папярэджвае гэтых таварышоў, што **«ўсякая затрымка з рэагаваннем будзе намі разглядацца як адна з форм грубейшага заціску пролетарскай самакрытыкі, выпустошвання яе дзейснасці».**

У нумары 49-м пад загалоўкам «Галерэя гробакапацеляў пісем рабочых і калгаснікаў» газета патрабуе прыцягнення да судовай адказнасці раду асоб — зрыўшчыкаў рэагавання на сігналы большэвіцкага друку (Колітаў, Мінчакоў, Бялы і інш.). Газета тут-жа друкуе паведамленне пракуратуры: «вышэй пералічаным таварышам неабходна сёння з'явіцца ў гарадскую пракуратуру да пракурора тав. Абелева».

Газета ўвяла на сваіх старонках **чорны** спіс зрыўшчыкаў рэагавання. У нумары 50-м яна заносіць кандыдатамі ў «чорны спіс зрываючых рэагаванне на сігналы пролетарскага друку» 5 адказных работнікаў раёна: загадчыка аддзелам сувязі, намесніка сакратара РК ЛКСМ, дырэктара леспрамгаса і другіх, патрабуе ад гэтых таварышоў неадкладнага рэагавання на працягу трох дзён.

**«Калі ў вызначаны тэрмін яны не дадуць вычарпальнага адказу на пералічаныя допісы, рэдакцыя вымушана будзе іх прозвішчы апублікаваць у чорным спісе зрываючых рэагаванне на сігналы пролетарскага друку, а таксама паставіць пытанне аб прыцягненні іх да адказнасці, як за заціск самакрытыкі»—**

—папярэджвае газета.

Так «Віцебскі пролетарый» з нумара ў нумар вядзе рашучую барацьбу за дзейснасць кожнага змешчанага радка. Работнікі аддзела пісем гавораць: «Мы за апошні час зусім мала паслалі напамінкаў. У большасці сваёй адказы дасылаюцца своечасова. У гэтым, апрача органаў юстыцыі, **нам дапамагаюць аўтары пісем і пролетарская грамадскасць Віцебшчыны».**

Работа з пісьмамі працоўных у большасці нашых газет пастаўлена яшчэ не здавальняюча. Апошняя пастанова ЦК КП(б)Б аб рабоце з пісьмом і кіраўніцтве рабкорамі з'яўляецца сур'ёзным папярэджаннем для ўсяго нашага большэвіцкага друку. Па прыкладу «Віцебскага пролетарыя» наш друк абавязан біцца за чулыя, уважлівыя, большэвіцкія адносіна да пісем рабочых і калгаснікаў, за дзейснасць кожнага змешчанага пісьма, кожнай рабселькораўскай заметкі.

**З. СНЕЖКА**

# РАБСЕЛЬКОРЫ БАЛГАРЫІ

Рабселькораўскі рух у Балгарыі пад кіраўніцтвам балгарскай компартыі, працуючай у нелегальных умовах, набыў магутны размах.

Вось што піша наш сафійскі рабкор. т. Р.

«Рады рабселькораў растуць з кожным днём, як расце і ўплыў надпольнага комуністычнага і легальнага рабочага друку. Пачатак 1934 года — перыяд арганізацыйнага ўмацавання рабселькораўскага руху.

У гарадах для кіраўніцтва рабкорамі арганізуюцца агульна-гарадскія камітэты. Яны кіруюць работай рабкораўскіх гурткоў на прадпрыемствах. Цэнтральны сафійскі камітэт кіруе работай мясцовых камітэтаў і рабселькораўскіх груп і складае зводны план работы для рабселькораўскіх гурткоў на ўсёй Балгарыі».

Тав. Р. прыслаў нам трохмесячны зводны план работы сярод рабселькораў. Падаём некалькі пунктаў з гэтага плана:

**«У ПЛОУДЗІВЕ:**

а) пашырыць і поўнасцю аформіць усе ўжо існуючыя гурткі;

б) арганізаваць тры новыя гурткі на найбольш буйных прадпрыемствах;

в) афармленне агульна-гарадской рабкораўскай групы і выбары камітэта;

г) афармленне пры агульна-гарадской рабкораўскай групе секцыі эсперанта;

д) рэгулярныя штотыднёвыя сходы ўсіх гурткоў і агульна-гарадской групы;

е) спецыяльная нарада гурткоў па пытанню: задачы рабочага руху і задачы рабселькораў;

ж) выданне на трох прадпрыемствах друкаваных або, калі немагчыма, насценных газет;

з) арганізацыя на трох прадпрыемствах гурткоў прыяцеляў рабочага друку».

Балгарскія таварышы працуюць ва ўмовах жорсткага паліцэйскага тэрора.

Рабселькоры з вялікай энергіяй і самаадданасцю выдалі свой першы нумар **«Рабселькора»**. Але не паспелі вынясць з машыны, як нумар быў арыштован і забаронен.

На змену **«Рабселькору»** прышоў **«Межрабселькор»** («Міжнародны рабселькор»). Прышлі і іншыя рабочыя журналы і газеты, пры якіх уведзен рабселькораўскі аддзел (**«Эхо»**, **«Новины»**, **«Работническо дело»**, **«РЛФ»**, **«Единство»**, **«Младежна искра»** і інш.).

«Межрабселькор» адной са сваіх галоўных задач ставіць барацьбу з хлуснёй пра СССР, расказванне праўды аб СССР, арганізацыю масы на абарону СССР, супроць імперыялістаў.

«Межрабселькор» на сваіх старонках змяшчае пісьмы рабселькораў розных краін, выкрываючы падрыхтоўку імперыялістаў да вайны, у першую чаргу, да вайны супроць СССР.

«Межрабселькор» адразу-ж цвёрда стаў на класавыя пролетарскія пазіцыі, выкарыстоўваючы ўсе легальныя магчымасці для сваёй работы. Зусім невыпадкова, што ўжо другі нумар быў забаронен, не паспеўшы выйсці з друкарні. Рэдактара газеты Алексеева арыштавалі і кінулі ў турму.

На газету і рабселькораў пасыпаліся новыя ўдары рэакцыі.

Таварышы з Балгарыі паведамляюць:

«Канфіскован «Межрабселькор» № 9, у якім было шмат матэрыялаў, выкрываючых фашызм, і шмат вельмі цікавых пісем аб СССР».

«У Котленскім раёне паліцыя арыштавала актыўных рабселькораў Васільева, Ант-Цондкава, Сцяпанава і Момчава за распаўсюджанне газет».

«Ад рукі македонскіх фашыстаў загінуў Хрысто Трайкоў, забіты на вуліцах Сафіі, актыўны рабкор».

«Але гэтыя тэрарыстычныя акты не задушылі газету. Рабселькоры разгарнулі гераічную работу ў масах, і тыраж «Межрабселькора» не толькі не зменшыўся, але вырас у паўтары раза».

Вышлі ўжо 32 нумары «Межрабселькора». З іх 15 былі канфіскаваны. Паліцыя зрабіла 8 налётаў на рэдакцыю, у часе якіх былі забраны ўсе матэрыялы газеты і канфіскавана маемасць. 6 рэдактароў былі арыштаваны і кінуты ў турму. 12 раз рэдактары плацілі штраф.

Фашысцкі тэрор не ў сілах задушыць рабочы друк. У адказ на тэрор расце тыраж рэвалюцыйных газет, расце армія рабселькораў, растуць рабселькораўскія гурткі.

Масы рабочых і сялян яшчэ шчыльней згуртоўваюцца вакол компартыі на барацьбу супроць фашысцкай дыктатуры.

# Дэкаднік большэвіцкага друку

## (ПА СТАРОНКАХ РАЁННЫХ І ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКІХ ГАЗЕТ)

**◆ З 5 па 15 мая па БССР праводзіўся дэкаднік друку. ◆ Рад райкомаў партыі і палітаддзелаў МТС сумесна з раённымі і палітаддзельскімі газетамі склікалі канферэнцыі чытачоў, праводзілі рэйды праверкі рэагавання на матэрыялы друку і пісьмы працоўных, пашыраныя нарады рэдкалегій калгасных, брыгадных насценгазет. ◆ У радзе раёнаў праведзены спецыяльныя партдні аб друку, арганізуюцца семінары для селькораў, разгортваецца масавая работа па ўздыму ролі нізавога калгаснага друку і рабселькораў у выкананні планаў сяўбы.**

### ЖЛОБІН.

Другі дзень дэкадніка друку раённая газета **«Шлях соцыялізма»** адзначыла спецыяльнай старонкай пад лозунгам: **«Узброім кожны калгас, кожную брыгаду аператыўнай насценгазетай».** Газета друкуе агляд насценгазеты промарцелі «Чырвоны металіст», паказвае, што «з поля зроку насценгазеты выпаў адказны ўчастак работы—барацьба за якасць». Газета змяшчае пастанову бюро РК КП(б)Б аб правядзенні дэкадніка друку, мабілізуе калгасны актыў і селькораў правесці дэкаднік пад лозунгамі ажыццяўлення пастаноў XVII з'езда партыі, праверкі якасці сяўбы, барацьбы за кармовую базу для соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

У дэкаднік друку **лепшыя селькорыўдарнікі і рэдактары брыгадных насценгазет прэміруюцца,** лепшыя з іх вылучаюцца **на адказную газетную работу.**

У буйнейшых соўгасах і калгасах праводзяцца **палітдні аб друку,** заслухоўваюцца справаздачы рэдактароў насценгазет, брыгадных чытчыкаў, пісьманосцаў, прымацаваных да рэдкалегій настаўнікаў.

З удзелам селькораў, калгаснікаў і калгасніц па раёну арганізуецца **рэйд праверкі работы па стварэнню кармовай базы і паляпшэнню пашаў.**

### КАПЫЛЬ.

Дэкаднік друку капыльская партыйная арганізацыя, раённая і палітаддзельская газеты праводзяць пад лозунгам **ажыўлення і паляпшэння якасці работы нізавога друку,** арганізацыі новых газет у калгасных брыгадах. **Абвешчан конкурсспаборніцтва на лепшага рэдактара брыгаднай насценгазеты.**

На прадпрыемствах, у соўгасах і калгасах склікаюцца **канферэнцыі чытачоў.** Канферэнцыі чытачоў павінны абмеркаваць работу сваёй насценнай, палітаддзельскай і раённай газет.

### КРУПКІ.

Бюро крупскага райкома партыі абавязала раённую газету **«Комуністычны шлях»** арганізаваць у дэкаднік друку **выстаўку калгасных насценгазет.** Задача выстаўкі—паказаць колькасны і якасны рост нізавога друку, папулярызаваць лепшыя прыклады работы. Па раёну праводзяцца **кустаўыя канферэнцыі чытачоў і рабселькораў з дакладамі рэдкалегій насценгазет.** На канферэнцыях чытачоў у буйнейшых калгасах дакладвае аб сваёй рабоце раённая газета, прадстаўнік раённай пракуратуры выступае з судакладам аб рэагаванні на пісьмы працоўных.

Райком КП(б)Б абавязаў раённую газету і райпракуратуру правесці ў дэкаднік друку масавы рэйд селькораў і груп «лёгкай кавалерыі» на праверцы рэагавання на матэрыялы друку.

Рэдакцыі раённай газеты даручана правесці курсы-семінар для 30 чалавек селькораўскага актыва і рэдактароў насценгазет.

### БЫХАЎ.

Быхаўская партарганізацыя і раённая газета **«Маяк комуны»** адзначаюць дэкаднік друку скліканнем злётаў рабселькораў і рэдкалегій насценгазет, **канферэнцыямі чытачоў у 3-х соўгасах і 2 калгасах раёна.** Пры рэдакцыі раённай газеты, на шклозаводзе «Ільіч», у соўгасе «Грудзінаўка» і ў 2-х калгасах раёна арганізуюцца **семінары для рабселькораў і рэдкалегій насценгазет.** Абвешчан конкурс-соцспабор-

ніцтва на лепшую брыгадную, калгасную і соўгасную насценгазету. На старонках раённай газеты арганізуецца завочная справаздача аб рабоце насценгазет і селькораў.

## ЛЕЛЬЧЫЦЫ.

**Палітдні ў калгасах,** дзе будуць заслуханы справаздачы рэдактараў калгасных і брыгадных насценгазет, пяцідзенныя курсы рэлічаныя на 75 рэдактараў брыгадных насценгазет. канферэнцыі ў 9 калгасах чытачоў газет—вось чым адзначае дэкаднік друку лельчыцкая партыйная арганізацыя і рэдакцыі раённай і палітаддзельскай газет.

У мэтах лепшай падрыхтоўкі да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў райком КП(б)Б і палітаддзел Лельчыцкай МТС абвясцілі **конкурс на лепшую брыгадную і калгасную насценгазету і газету жывёлагадоўчай фермы.** Для прэміравання лепшых рэдактараў брыгадных і калгасных насценгазет выдзелена 600 р.

## СТАРОБІН.

З 5 па 15 мая ў калгасных брыгадах Старобінскага раёна праводзяцца гутаркі аб ролі бальшэвіцкага друку і задачах брыгадных насценгазет.

На раёну праведзен адзіны партыйна-камсамольскі дзень. На калгасных сходах абмеркавана пытанне ўдзелу нізавога друку у прапо́лцы і падрыхтоўцы да ўборкі.

## КЛІЧАЎ.

Клічаўскі райком КП(б)Б абавязаў раённую газету **«Сталінскі шлях»** правесці ў дэкаднік друку масавы рэйд праверкі рэагавання на пісьмы працоўных у друку.

10-га мая па раёну праводзіцца адзіны партдзень аб друку.

13-га мая па ўсіх сельсоветах раёна склікаюцца злёты селькораў і рэдактараў насценгазет.

## ЧЭРВЕНЬ.

У дэкаднік друку раённая газета **«Калектывіст» падагульняе вынікі агульнараённага конкурса на лепшую калгасную брыгадную насценгазету.** На сходах, склікаемых у адзіны партдзень аб друку, са справаздачамі выступаюць рэдактары нізавых калгасных газет.

У буйнейшых калгасах Чэрвеньшчыны адбываюцца канферэнцыі чытачоў, праводзіцца рэйд праверкі рэагавання на пісьмы працоўных.

## ПАРЫЧЫ.

«Ленінская перамога»—парыцкая раённая газета—у дэкаднік друку склікае раённы злёт селькораў і рэдактараў калгасных насценгазет, праводзіць куставыя сельсавецкія злёты па пытанню ўдзелу селькораў і нізавога друку ў завяршэнні сяўбы і падрыхтоўцы да праполкі і ўборкі.

---

**ФЕЛЕР**

Рэдактар шматтыражкі «Варашылавец».

# ЖЫВА, ЦІКАВА, ПА-ДЗЕЛАВОМУ

**27 цэхавых і брыгадных насценгазет** выходзяць у нас на заводзе. Каля 300 рабкораў-ударнікаў — вось актыў гэтых газет і заводскай шматтыражкі.

З 5 па 15 мая мы правялі на заводзе дэкаднік друку.

У абедзены перапынак першага дня дэкадніка **рэдакцыя шматтыражкі праз заводскі радыёвузел правяла гутаркі па радыё аб задачах дэкадніка.**

6-га мая, таксама ў абедзены перапынак, былі арганізаваны **выступленні па радыё лепшых ударнікаў і рабкораў завода аб рабоце шматтыражкі.** Выступілі т.т. **Міхайлаў, Воранаў, Валахнянскі, Дрознін, Бляхер, Філановіч, Эстэркін** і інш. Выступаўшыя таварышы ўказвалі на недахопы, якія яшчэ ёсць у рабоце шматтыражкі і нізавога друку завода. Рабкор тав. **Цыркін** зусім правільна адзначыў, што часта пытанні, якія ўзнімае газета, не даводзяцца да канца, слаба настаўлена рэагаванне на рабкораўскія заметкі. Тав. **Воранаў** указаў на

зусім недастатковае мастацкае афармленне **«Варашылаўца»** і большасці насценгазет карыкатурамі, фотаздымкамі і т. д.

Выступіўшы на яўрэйскай мове тав. **Дрэзнін** прапанаваў арганізаваць гурток пачынаючых рабкораў. Рабкор тав. **Міхайлаў** адзначыў, што рэдакцыя «Варашылаўца» павінна яшчэ больш увагі аддаць рабкорам, весці з імі сістэматычную масава-выхаваўчую работу.

7-га мая быў праведзен адзіны партдзень аб Дні друку. На цэхах праведзены адкрытыя партсходы, на якіх заслухоўваліся справаздачы рэдактароў цэхавых і брыгадных насценгазет. Партдзень значна ўзняў актыўнасць рабкораў і ўсяго нізавога друку завода.

11-га мая мы правялі агульна-заводскі вечар чытачоў і рабкораў завода сумесна з прадстаўнікамі цэнтральнага друку. Аб вечары загадзя былі праведзены гутаркі ў цэхах. Задачы і парадак вечара былі падрабязна растлумачаны кожнаму рабочаму. Шматтыражка разам з рабкорамі правяла вялікую работу па арганізацыйнай падрыхтоўцы вечара.

Вечар пачаўся з работы секцый. Усяго працавалі тры секцыі: секцыя па перабудове партыйна-масавай работы і задачах друку, аб чым і як пісаць рабкору, аб рабоце з рабселькорамі. Праведзеная падрыхтоўчая работа, добры падбор кіраўнікоў і актыўнасць рабкораў забяспечылі добрыя вынікі работы секцый. Асабліва актыўна прайшла работа секцыі па рабоце з рабселькорамі. Калі секцыі закончылі работу, усе ўдзельнікі вечара сабраліся ў вялікай зале клуба. Былі падведзены вынікі работы секцый, заслуханы даклады аддзела рабселькораўскіх пісем «Звязды» і шматтыражкі «Варашылавец» аб рабоце з пісьмамі і становішчы рэагавання. На вечары выступіў пракурор г. Менска т. **Канаплін**, які адзначыў зусім слабую сувязь газет з органамі пракуратуры, неабходнасць палепшыць гэту сувязь для ўзмацнення дзейснасці пісем рабочых.

Дэкаднік друку паказаў, што нізавы друк завода, баявы атрад рабкораў-варашылаўцаў, не гледзячы на недахопы, якія безумоўна яшчэ ёсць у іх рабоце, з'яўляюцца лепшымі памочнікамі партыйнай арганізацыі завода ў справе ажыццяўлення рашэнняў XVII партыйнага з'езда.

Лепшы рабкор — рэдактар газеты кацельнага цэха **Воранаў** адным з першых здаў тэхэкзамен, палітэкзамен, нормы на значок «варашылаўскі стралок». Ударнік рабкор тав. **Міхайлаў** дапамагае шматтыражцы арганізоўваць матэрыял, вярстаць газету.

Ударнікі-рабкоры т.т. Рубінштэйн, Бляхер, Цофін, Гурвіч, Эльтэрман, Гурэвіч, Вечорак і шмат іншых прымаюць актыўны ўдзел у працы нізавога друку завода.

Праведзеная масавая работа ў часе дэкадніка друку з'явіцца для нас пачаткам сістэматычнай дапамогі нізавому друку, палепшэння кіраўніцтва рабкорамі, прыцягнення да ўдзелу ў друку лепшых рабочых — ударнікаў завода.



**Тав. ГАЛУБЕЦ — лепшы рабкор-ударнік, зотавец стандартнага цэха Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната.**

## Палітмасоўка комунараўцаў, прысвечаная дэкадніку друку





У дзень друку рабочыя завода «Комунар» арганізавалі ў «парку культуры і адпачынку» палітмасоўку. На здымку: Комунараўцы спухаюць даклад тав. Чыжовай аб задачах большэвіцкага друку і ролі комуністычных газет за мяжой; у авале —дырэктар КІЖ'а БССР тав. Чыжова.

**ШЫФРЫНА**
рэдактар шматтыражкі «Комунаравец».

# Свята комунараўцаў

Партком завода і рэдакцыя шматтыражкі рашылі арганізаваць палітмасоўку, прысвечаную дэкадніку друку. Справа гэта ў нас новая, вопыта правядзення палітмасовак мы не мелі, таму на першы раз мы правялі не агульна-заводскую масоўку, а толькі двух цэхаў — кавальскага і ліцейнага.

З чаго мы пачалі сваю работу? Перш за ўсё сабралі парторгаў, рэдактароў насценгазет і праформаў, дзе абмеркавалі канкрэтны план палітмасоўкі. На гэтай нарадзе размеркавалі абавязкі па арганізацыі музычнай газеты, радыё-хронікі, аркестра, самадзейнасці рабочых. У цэхах правялі сходы рабкораў, рабочых, на якіх падрабязна інфармавалі аб палітмасоўцы. Напярэдадні масоўкі ў цэхах былі вывешаны аб'явы. З кафэ-рэстарана завода арганізавалі выязны буфет.

11-га мая раніцою загадзя вылучаныя дзяжурныя сталі ля ўваходу ў парк культуры і адпачынку. Яны сустракалі праходзячых рабочых, указвалі ім месца палітмасоўкі. Духавы аркестр і гарманісты былі ўжо на месцы. Пад гукі аркестра адбываліся масавыя гульні, якія чаргаваліся з танцамі і калектыўнымі спевамі.

У 2 гадзіны адкрылі масоўку. Дырэктар Комуністычнага інстытута журналістыкі тав. **Чыжова** расказала рабочым аб геройскай барацьбе рабкораў Германіі, Францыі, Японіі, Польшчы, аб метадах распаўсюджання падпольнага комуністычнага друку: «Ротэ фанэ», «Секкі» і інш.

Пасля тав. Чыжовай выступіла брыгада рабкораў з музычнай газетай: пад акампанімент гармоні, балалайкі, звычайных лыжачак былі выкананы частушкі, напісаныя рабкорамі, у якіх выкрываліся факты

дрэннай барацьбы за якасць, высмейваліся балбатуны, лодыры, сімулянты.

Невялічкі перапынак, у часе якога працаваў буфет, і зноў гульні, выступленні рабочых у парадку самадзейнасці са спевамі, дэкламацыяй, радыё-хронікай і т. д.

Масоўка прайшла жыва, весела, узняла зацікаўленасць рабочых да газеты, да рабкораўскай работы.

Масоўка паказала нам, што такія формы работы трэба часцей практыкаваць і шматтыражкы і нізавым газетам завода.

# НА ПАЛІТМАСОЎЦЫ КОМУНАРАЎЦАЎ

ФОТО КАПЛІНСКАГА.



За выпускам насценгазеты, прысвечанай палітмасоўцы.





Спухэюць музыкальную газету.



Насценгазета выпушчана.





Рэдактар штодзёнкі ліцейнага цэха т. Крывашэй з сваёй сям'ёй на масоўцы.

С. ВАЛЬФСОН

# На абарону рабселькора ад прахадзімца, злодзея і класавага ворага

«Трэба значна ўзмацніць барацьбу з праследваннем рабкораў і селькораў... Мы павінны дабіцца таго, каб гэтыя людзі смелымі былі. Трэба зрабіць так, каб кожны рабселькор быў упэўнен, што яго выкрыцці знойдуць належны водгук, што вінаватыя будуць пакараны, што ад прахадзімцаў, злодзеяў, жулікаў і класавага ворага яго абароняць» (Постышэў).

У 26 нумары газеты **«Сцяг калектывізацыі»** (Чачэрск) надрукавана заметка «Факт, патрабуючы рэагавання пракурора і калгаснай грамадскасці». Пад заметкай таямнічы подпіс—«ПСК». У гэтай заметцы селькор выкрывае агіднейшыя факты разбазарвання калгаснай маемасці ў калгасе «Хваля рэвалюцыі», Руда-Барталемееўскага сельсовета.

Селькор просіць рэдакцыю ні ў якім разе не надпісваць заметку яго ўласным прозвішчам, а то ён тады «прапаў». Ён паведамляе рэдакцыі чачэрскай газеты аб тым, што ў калгасе «Хваля рэвалюцыі» і ў Руда-Барталемееўскім сельсовеце наогул не любяць крытыкі, праследуюць селькораў, якія прабуюць выкрываць шкоднікаў і жулікаў.

Што-ж робіць раённая газета, атрымаўшы такі сур'ёзны сігнал ад свайго селькора? Газета друкуе заметку селькора і дае да яе наступную прыпіску ад рэдакцыі: «Як бачна парторг т. Цярэшчанка не стаў на чале разгортвання крытыкі і самакрытыкі, у калгасе яна ў загоне...». Наўрад ці можна прыдумаць што-небудзь больш ліберальнае і бяззубае, чым гэта, з дазволу сказаць, «прыпіска ад рэдакцыі».

Рэдакцыя «Сцяг калектывізацыі» не ўзяла пад абарону сваіх селькораў з Руда-Барталемееўскага сельсовета. Антыграмадскія элементы на чале з старшынёй сельсовета Васіленкам і страціўшым свой партыйны твар «комуністам» Цярэшчанкам прадаўжалі праследванне селькораў.

Нядаўна рэдакцыяй «Звязды» атрымана пісьмо ад селькора т. Захарава з калгаса «Чырвоны Окцябр» таго-ж Буда-Барталемееўскага сельсовета. Тав. Захараў піша, што кіраўнікі сельсовета і калгаса «Чырвоны Окцябр» заняліся адкрытым шальмаваннем селькораў. Справа дайшла да таго, што старшыня сельсовета Васіленка на пленуме сельсовета пагражаў селькорам аддаць іх пад суд і выключыць з калгаса. Пагроза была выканана. Актыўнага селькора Захарава выключылі з калгаса без усякіх на тое падстаў.

Раённы пракурор т. Фіткевіч па даручэнню рэдакцыі «Звязды» расследваў гэту справу. Факты пацвердзіліся. Праследвальнікі селькора Захарава—Васіленка, Цярэшчанка і інш. адданы пад суд.

Селькор Захараў дабіўся прыцягнення к суду сваіх праследвальнікаў толькі пасля таго, як звярнуўся ў «Звязду». Раённая-ж газета, добра ведаючы ўсе факты праследвання селькораў, якія тварыліся ў раёне, увесь час стаяла ў баку, ні разу не выступіла ў абарону сваіх селькораў і гэтым самым аб'ектыўна дапамагала класава-варожым элементам у цкаванні і праследванні лепшых селькораў.

Рэдакцыя чачэрскай газеты не зрабіла для сябе ніякіх вывадаў са справы рэдактара прохараўскай раённай газеты (Цэнтральна - Чорназемнай вобласці) **Арысцідава.**

Арысцідаву суд забараніў на тры гады кіруючую работу ў рэдакцыях газет за тое, што ён не надаў забойству селькора палітычнага значэння, не дапама-[illegible]чым **органам знайсці** забойцаў шляхам мабілізацыі ўвагі шырокай пролетарскай грамадскасці.

Але справа не толькі ў тым, каб пасля забойства ці замаху на рабселькора мабілізаваць грамадскую думку, дапамагчы знайсці злачынцаў. Галоўнае ў тым, каб абараніць селькораў ад жулікаў, прахадзімцаў, класавых ворагаў. Гэта значыць своечасова выкрыць і ўдарыць па вінаватых ў ганенні на селькораў, па малейшых спробах зажыму самакрытыкі, узнімаць гэтыя факты на належную палітычную вышыню. Гэта павінны зразумець рэдакцыі ўсіх газет.

**Б. МІРЭЦКІ**

# Непакараныя глушыцелі самакрытыкі

Штодзень рэдакцыя брагінскай раённай газеты **«Трыбуна калгасніка»** атрымлівае ад сваіх селькораў 10-12 пісем. Усе карэспандэнцыі змясціць на старонках газеты нельга нават таму, што не хапіла-б месца. Апрача таго паасобныя заметкі селькораў патрабуюць папярэдняй праверкі. Таму частку селькораўскіх заметак і пісем калгаснікаў мы накіроўваем для расследвання і прынящця мер у розныя раённыя ўстановы і сельсоветы.

Як-жа адносяцца да прысланых намі заметак раённыя арганізацыі? Вось факты.

Большасць заметак пападае ў райземаддзел. Сюды мы пасылаем найбольш важныя заметкі. Да гэтых матэрыялаў павінна быць найбольш чулае і найбольш быстрае і вычарпальнае рэагаванне. Зусім не тое мы маем у сапраўднасці. Работнікі брагінскага райземаддзела на чале з загадчыкам Шэўчанка груба ігнаруюць пісьмы рабселькораў.

За час з 20 лістапада 1933 года па 15-е красавіка 1934 г. мы паслалі ў райземаддзел 50 заметак. Ні на адну з іх райземаддзел не адказаў і да сёнешняга дня. Мы некалькі раз звараччаліся ў райземаддзел, але без усякіх рэзультатаў.

Не лепшая справа з рэагаваннем і ў іншых раённых арганізацыях.

Не адказвае на прысланыя рэдакцыяй пісьмы райміліцыя (нач. тав. **САФОНАЎ).** На сёнешні дзень у райміліцыі ляжаць без усякага руху 46 заметак.

У райвыканкоме ўжо некалькі месяцаў марынуюцца 27 заметак, у райаддзеле асветы—19. Раённы пракурор не толькі не дапамагае нам, але нават не адказвае на пасланыя непасрэдна яму заметкі.

Стаўшы на шлях ігнаравання селькораўскіх заметак і сігналаў раённай газеты, раённыя арганізацыі прайшлі міма самых абураючых фактаў, выкрытых нашымі селькорамі.

У нумары за 31-е сакавіка 1934 года мы змясцілі заметку селькораў «Як арганізавана работа на МТФ у калгасе «Новы свет». У заметцы селькоры выкрылі шкодніцтва на гэтай ферме. Мы назвалі шкоднікаў, выкрылі іх цёмныя справы. Аднак, і па **сёнешні дзень у раёне ніхто не заняўся гэтай справай, і шкоднікі прадаўжаюць разбураць ферму.**

Або вось факт, які здарыўся ў калгасе «Краіна советаў». Нашы селькоры выкрылі шкодніцтва на канюшні. За кароткі час шкоднікі вывелі са строю 80 проц. калгасных коней. Пра гэта мы пісалі 29 сакавіка. Ніякіх мер па заметцы не прынята.

Тут указаны толькі паасобныя факты. Іх можна значна прадоўжыць.

Некалькі раз мы выступалі на старонках нашай газеты па пытаннях рэагавання, выкрывалі злосных зажымшчыкаў самакрытыкі. Гэта таксама не дапамагло.

Зараз мы звараччаемся да журнала «Бальшавіцкі друк» з просьбай дапамагчы нашай газеце дабіцца дзейснасці заметак рабселькораў і пісем працоўных. Злосныя зажымшчыкі самакрытыкі з брагінскіх раённых арганізацый павінны атрымаць па заслугах.

**М. БРАГІН.**

***

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Пісьмо т. МІРЭЦКАГА заслугоўвае выключнай увагі. Ігнараванне сігналаў друку, бюракратычныя адносіны да рабселькораўскіх карэспандэнцый і пісем працоўных нельга інакш расцэньваць, як заціск крытыкі і самакрытыкі.**

**Спадзяемся, што Брагінскі райком КП(б)Б прыцягне да партыйнай адказнасці глушыцеляў самакрытыкі з райземаддзела, райвыканкома, міліцыі і інш. раённых устаноў.**

# Бухгалтар падмяніў жывое слова рабкора

«**За промфінплан**»—шматтыражка ткацкай фабрыкі «**Дняпроўская мануфактура**» —задумала здзівіць свет «арыгінальнай» папулярызацыяй промфінплана фабрыкі па другі квартал.

10-га красавіка ў шматтыражцы з'явілася старонка бухгалтарскіх балансаў. Яе змест: табліцы, лічбы і сухое пералічэнне прозвішчаў рабочых, узятых па спісу дырэкцыі і фабкома. У старонцы не знайсці жывога слова рабкора. Ні адной заметкі, ні аднаго выступлення ўдарніка.

На тры сярэднія калонкі рэдакцыя падала план работы фабрыкі на другі квартал па відах і гатунках прадукцыі. За ім следуе другі план, але ўжо выпрацоўкі па камплектах. План не ўмяшчаецца. Але рэдактар тав. **Рабіновіч** не падае духам. Ён хутка знаходзіць выхад—абяцае працяг плана даць «у чарговы нумар». Тутжа рэдакцыя падвёрствае дзве зводкі: адну за першы квартал, другую спецыяльна за сакавік месяц. А далей ідзе габінетная творчасць рэдакцыі, якая напамінае прадукцыю балбатуна, што крычыць, «камандуе» і нічому канкрэтна не вучыць.

> **«Тав. падмайстры 1-га камп, (Чэрнін, Кузняцоў—Пілюцін) 2-га (бр. Лібінзон) 3-га (бр. Элькіны) і ткачы камплектаў.**
>
> **За першы квартал на вашых камплектах недапрацавана 20.703 метраў шырокага, добрага трыко.**
>
> **Кожны з вас на сваім участку мае недавыкананне плана.**
>
> **У вас ёсць магчымасці, каб вашы камплекты сталі самымі прыкладнейшымі на фабрыцы. Змагайцеся за кожны метр тканіны. Станавіцеся ў рады ўдарнікаў.**
>
> **«Таварышы падмайстры (Байкоў-Малчанаў) і ткачы 8-га камплекта.**
>
> **Варштаты ў вас разладжаны. Браку—шмат. З-за вашай дрэннай работы краіна недаатрымала 32.334 метраў.**
>
> **Няўжо вы думаеце і надалей так ганебна плесціся ў хвасце».**

Газета выкідвае голыя лозунгі, якія нікога і нічому не абавязваюць:

> **«Таварышы падмайстры (Райхман-Павроз-Статкевіч) і ткачы 13 камплекта.**
>
> **35.704 метраў вузкага трыко вы недадалі калгаснікам і рабочым нашай краіны за першы квартал. Гэта нецярпіма.**
>
> **Вы павінны напружыць усе сілы, каб зняць з вас ганебныя плямы».**

І так далей без меры і канца. Мора слоў і ні кроплі справы, ні адной дзелавой прапановы.

Такімі, з дазволу сказаць, аператыўнымі «заметкамі», створанымі ў габінеце рэдакцыі на аснове адной лічбы недавыканання плана, рэдакцыя імкнецца дапамагчы рабочым выканаць промфінплан.

Але ці гэта патрэбна было бальшэвіцкай газеце? Замест надобнага жангліравання бухгалтарскімі разлікамі работнікам шматтыражкі неабходна было лепш увайсці ў дэталі работы цэхаў, машын і, глыбока і ўсебакова вывучыўшы людзей і варштаты, расказаць на старонках шматтыражкі, чаму іменна за першы квартал фабрыка недадала краіне 55 тысяч 700 метраў тканіны. Рэдакцыя гэтага не зрабіла. Бухгалтарскія табліцы падмянілі жывое слова рабкора, рабочага фабрыкі. У газеце не загаварылі, як належыць перадавыя рабочыя, ударнікі, няма ні слова аб спаборніцтве цэхаў, брыгад, змен. А з промфінпланам на фабрыцы не ўсё добра.

Рабочы «Дняпроўскай мануфактуры» даведваецца з данай паласы, што ў другім квартале фабрыка павінна даць 1.019, 782 метры тканіны і пакрыць запазычанасць за першы квартал у ліку 55.700 метраў. Рабочы даведваецца, што гэта запазычанасць «**нецярпіма**» і што трэба «**напружыць сілы, каб зняць з сябе ганебную пляму**». Але ён хоча ведаць і тое, у чым-жа крыюцца карэнні недавыканання плана. Адказу-ж на гэта шматтыражка не дала.

Нічога дзіўнага, што пасля такой «аператыўнай» работы газета «За промфінплан» не мае рабкораўскага актыва і што амаль усе заметкі іншых старонак гэтага нумара з'яўляюцца прадукцыяй аднаго і таго-ж **Фейгінава і Грынберга.**




## СЛОЎНІК ТАВ. ПРАХАРЭНКІ.

Шмат слоўнікаў выдана ў нас: і энцыклапедычныя, і скарочаныя, і іншамоўных слоў. А вось спецыяльнага касцюковіцкага слоўніка ні адно выдавецтва яшчэ не здагадалася выпусціць.

Рэдактар касцюковіцкай газеты т. **Прахарэнка** рашыў запоўніць гэты прабел у

Рыс. Малевіча




рабоце нашай Акадэміі навук. Праўда, ён яшчэ не здаў сваёй працы ні ў адно выдавецтва, пакуль што слоўнік т. **Прахарэнкі** друкуецца па часцях у раённай газеце.

Чарговыя словы (толькі не ў алфавітным парадку) мы знаходзім у 41 нумары «Сталінскага прызыва» за 8 мая: **блуканяюцца** (блукаюць); **у ём** (уім); **падумка** (думка); **наплюйскі** (наплявацельскі); **замер** (намер); **заместа** (замест); **шкодніцкія** (шкодныя) і т. д.

Слова «шкодніцкія» т. Прахарэнка спалучае з словам «надумка» і атрымліваецца ў яго так: «Ствараюць **шкодніцкую падумку** ў калгаснікаў, што **нібыдта** (!) ворыва трактарам зніжае якасць апрацоўкі глебы».

Прахарэнка не толькі новыя словы выдумляе. Ён наватарствуе і ў стылі. У яго «сельсовет дае зводкі **ўхзпастую**, не ведаючы што тварыцца на палёх».

Не будзем чакаць, калі т. Прахарэнка скончыць працу над узбагачэннем мовы раённай газеты. Параім яму ўжо зараз сур'ёзна ўзяцца за ўладанне беларускай мовай, карыстаючыся хоць-бы тымі слоўнікамі, якія ёсць.

## КАЛІ Ў РЭДАКТАРА КРУЖЫЦЦА ГАЛАВА

Ці можна ўявіць сабе што-небудзь больш бяссэнсавае чым сказ **«Пасеў бульбы зрываюць пасеў бульбы»?** А вось-жа пішуць работнікі крычаўскай раённай газеты ў нумары за 10 мая:

> **«Пасеў бульбы па брыгадам № 1 і № 3 зрываюць пасеў бульбы і бабовых культур».**

Пішуць у **«Соцыялістычным шляху»** і так:

> **«Здаючы пахату Мышкоўская Лідка, Іваноў Парфен зусім дрэннай якасці інспектар па якасці Аляхновіч ад іх не прыняў».**

Што тут да чаго? Хто дрэннай якасці— Іваноў, Аляхновіч ці работа Пашкоўскай і Іванова? Папрабуйце разабрацца ў гэтым.

Падводзіць работнікаў крычаўскай газеты не толькі мова. Бывае часамі, што і галава ў іх пачынае кружыцца. Тады яны, выводзячы пяты радок заметкі, за-

бываюць, пра што пісалі ў другім радку.

Так, у тым-жа нумары «Соцыялістычнага шляху» за 10 мая чытаем:

**«Добра правёў сяўбу зернавых і ільну калгас імя Леніна».**

А трыма радкамі ніжэй

**«З пасевам ільну і бульбы калгас адстаў».**

Ну, ці-ж можна так рабіць газету, тав. Гармоцька?

Рыс. Малевіча.



## «ШКОДЗІЦЬ КАЛГАСУ».

Шкодзіць калгасу — такі ні-то канстатуючы, ні-то мабілізуючы загаловак над заметкай змясціла 8-га мая ўздзенская раённая газета **«Кэлгэснік Уздзеншчыны»**. Мы далёкі ад таго, каб дапускаць, што работнік рэдакцыі вуснамі селькора заклікаў кагосці шкодзіць калгасу. Той, хто падаваў гэту заметку ў друк, меркаваў сказаць, што шкодзіць калгасу Шыбко Іван, які не хоча чэсна і добрасумленна працаваць у калгасе. Аб гэтым і гаворыцца ў заметцы. Так і трэба было напісаць: «Шыбко Іван шкодзіць калгасу».

Такая падача загалоўкаў, як у «Калгасніку Уздзеншчыны», больш чым рызыкоўная.

## І «З АДНАГО БОКУ» І «З ДРУГОГА БОКУ»

На старонках газеты палітаддзела Пухавіцкай МТС **«Сталінец»**, не шукаючы, знойдзеш дзесяткі «апячатак» і памылак. Бярэм на выбар апошні нумар за 7-га мая.

На 4-й старонцы ў загадзе МТС газета паведамляе:

**«Трактарыст Макарэнка за сабатаж накіраван на зрыў работы трактарнага парка і веснавой сяўбы...» і т. д.**

Усю другую старонку газеты займае рэзалюцыя нарады практыкантаў-студэнтаў вышэйшай комуністычнай сельска-гаспадарчай школы сумесна з старшынямі калгасаў. Падаем вытрымку з гэтай рэзалюцыі, поўнасцю захоўваючы стыль «Сталінца»:

**«Нарада пастанэўляе: знішчыць перэлічаныя недахопы ў рабоце студэнтэў на практыцы трэба забеспечыць самую цесную сувязь кіраўніка практыці тав. Перельмана і агранома т. Жскоўскага, каб выправіць маючыся прэрыў. Устэнавіць цесную сувязь з палітаддзелам МТС і ўвязку рэботы з агрэрукэводствам. Прасіць Нэч. Палітаддзела і дырэктара МТС забеспечыць патрэбную ўвязку ў рэбоце студэнтэў. Гэтым сэмым стварыць умовы для 100 проц. выкарыстання часу прэктыці для набыцця вэдаў студэнтэмі з аднаго боку і скарыстэння студэнтэў для дапамогі з другога боку».**

На які бок не круці — і «з аднаго боку» і «з другога боку»—усюды бязграматна.

Рыс. Малевіча.




## «ДАВОЛІ ЗАХАПЛЯЦЦА СЯЎБОЙ»

Рэдактар старадарожскай раённай газеты **«За калектывізацыю»** тав. **Ізох** добра ведае, што калгасы і працоўныя аднаасобнікі раёна да 10-га мая выканалі толькі 86 проц. плана сяўбы яравых. Але гэта не перашкаджае яму, стаўшы ў позу

ўроўнаважвальніка тэмпаў сяўбы і тэмпаў рэалізацыі пазыкі, заклікаць «не захапляцца сяўбой». Інакш нельга зразумець аншлаг газеты за 12-е мая:

**«У захапленні сяўбой закінулі пазыку».**

Значыцца, асабліва «захапляцца» не трэба. Засеяць зможам і ў лішені. Так, ці што?

## «ПРАЦА ПАД ЗАМКОМ, ГАРМАНІСТЫ У ШАФЕ».

«Культурна-масавая праца пад замком» — паведамляе **«Чырвоны трамвайшчык»** — шматтыражка менскага транспартнага трэста (№ 2-18).

Рыс. Малевіча.



**«Цікава ведаць, ці думае заўком аб падняцці культурна-масавай працы сярод рабочых, —**

пытае газета і сама адказвае:

**Мабыць, не.**

**А чаму не?**

**А таму, што тав. Жыхароў ключы згубіў ад замкоў, якія вісяць на трох шафах».**

Прайшоўшыся па пакоях і азнаёміўшыся з насельнікамі гэтых трох шафаў, нехта «Музыкант» заўважыў, што:

**«У другой шафе ляжыць струнны аркестр».**

Не ўяўляем, як гэта «аркестр» у складзе якіх-небудзь 30 чалавек і па сёння можа **«ляжаць у шафе»**? Няўжо людзям не надакучыла? А мо' газета меркавала, што ляжаць толькі музычныя інструменты?

## АБ ЧЭРВЕНЬСКІХ «ПАЗІЦЫЯХ» І ДРУКАРСКІМ СВАВОЛЬСТВЕ.

**«Аб дзяржаўнай унутранай пазыцыі другой пяцігодкі»** — такі аншлаг на цэлых пяць калонак даў чэрвеньскі **«Калектывіст»** у 32-м нумары. Толькі спакушаны ў чэрвеньскіх «памылках друку» чытач мог здагадацца, што справа ідзе далёка не аб нейкіх «унутраных пазіцыях другой пяцігодкі». Аказваецца і на гэты раз падвяла лішняя і непатрэбная літара «і». Газета меркавала сказаць «Аб дзяржаўнай унутранай пазыцы», а надрукавала «аб пазыцыі другой пяцігодкі».

На гэтых «цудах тэхнікі» газета не абмежавалася. 10-га мая «Калектывіст» у адным з загалоўкаў прабуе даказаць, што **«Уласевіча не выконвае трудгужпавіннасць»**. Ніяк не ўяўляем сабе постаці жывой істоты «трудгужпавіннасці», якая магла-б пайсці да Уласевіча і «выканаць яго». Зноў такі брак і брак, як відаць, дапушчаны па віне саміх работнікаў рэдакцыі.

## «ПЛАНЫ САМІ НАВАТ НЕ СКАРДЗЯЦЦА».

Доследамі работнікаў старадарожскай раённай газеты **«За калектывізацыю»** ўстаноўлена наяўнасць жыцця ў звычайным лісце паперы. Даволі толькі на такім лісце напісаць слова «план», як ён пачынае ўжо варушыцца і праяўляць якасці жывога чалавека.

10 мая газета паведаміла ўсяму раёну, што

**«Планы самі нават не скардзяцца».**

Відаць, вельмі ўжо міралюбівыя стварэнні гэтыя планы, калі яны «не скардзяцца» нават на такую бязглуздзіцу, як гэты загаловак у старадарожскай газеце.

Рыс. Малевіча.



# Ініцыятыва практыка вопыт

◆ У дзень 1-га мая — рагачоўская раённая газета **«Комунар»** арганізавала на сваіх старонках паказ таго, як МТС узбройвае калгасы новай тэхнікай.

«На палях калгаса Рагачоўскага раёна, — піша раённая газета, — працуюць 24 трактары, 8 трактарных сенакасілак, 13 складаных малатарань, 14 трактарных дыскавых боран, 12 трактарных радковых сеялак, 7 сіласарэзак, 3 ільнацерабілкі «Комсамолка», не лічачы іншага складанага трактарнага інвентара, якім МТС аказвае значную дапамогу калгасам, аблягчае ім працу».

Газета расказвае, што калгасамі Рагачоўскай МТС за апошнія гады набыты 82 жняяркі, 67 радковых сеялак, 39 сенакасілак, 58 конных грабель, 28 бульбакапалак. У гэтым годзе МТС атрымоўвае комбайн.

«Комунар» расказвае і аб культурным росце сёнешняга калгасніка, аб культурным паходзе, які быў абвешчан палітаддзелам МТС. За час культпахода ў калгасах пабудавана 7 лазняў, абсталявана 20 чырвоных куткоў, арганізавана 20 бібліятэк, 50 калгасных аптэк, тэлефанізаваны два сельсоветы і калгас «Ніва Окцябра», устаноўлена радыё ў 10 калгасах.

◆ **Рэдакцыя газеты палітаддзела Боркавіцкай МТС** арганізавала выданне і пасылку ў калгасы **«тэлеграм»**. У тэлеграмах у кароткай сціслай форме расказваецца аб поспехах сяўбы ў перадавых калгасах, выкрываюцца канкрэтныя вінаватыя адставання асобных калгасаў. 9-га мая ў калгасы раёна разаслана 4-я тэлеграма, прысвечаная дэкадніку друку і пытанням барацьбы за хутчэйшае заверашэнне сяўбы аўса.

◆ **Выязная рэдакцыя чэрыкаўскай раённай газеты «Соцыялістычная перэмога»** выдала ў Шаросўскім сельсовеце 9-ты нумар апаратыўнага друкаванага бюлетэня. Задача бюлетэня — дапамагчы партыйкай арганізацыі і сельсовету ліквідаваць адставанне ў сяўбе, змагацца за якасць палявых работ.

◆ **Конкурс на лепшую насценгазету і селькора** абвясціла сенненская раённая газета **«Комунэр»** і газета палітаддзела **«Сталінец»**. Першая праверка выканання ўмоў конкурса арганізуецца пасля заверашэння сяўбы, другая — пасля праполкі і трэцяя — пасля ўборкі.

◆ **«Штурмовец Дзяржыншчыны»** — дзяржынская раённая газета — і **«Большэвіцкі сцяг»** — газета палітаддзела Путчынскай МТС — выдалі для калгасных брыгадных радкалегій макеты насценгазет. 5.000 макетаў выдана на польскай мове і 5.000 на беларускай.

◆ **«Ленінскі сцяг»** — лёзненская раённая газета — праводзіць на сваіх старонках конкурс на лепшую калгасную дзіцячую пляцоўку.

◆ Бягомльская раённая газета **«Калгасны змагар»** сумесна з райкомам партыі і палітаддзелам МТС праводзяць **12 куставых злётаў селькораў**, прысвечаных пытанню заверашэння сяўбы і падрыхтоўкі да праполкі.

## ПА СОВЕЦКАМУ САЮЗУ

◆ **Велізарны рост палітаддзельскіх газет** адзначыў друк Совецкага Саюза ў дзень 5-га мая. **У студзені 1933 года выходзіла 25 палітаддзельскіх газет,** у маі — 500, у жніўні — 1.645, у снежні — 2.100 і **ў маі 1934 г. — 2.415.**

◆ **Друкаваную насценную газету** пачаў выдаваць палітаддзел Новаушыцкай МТС, Вінніцкай вобласці. Газета адыграла вялікую ролю ў правядзенні чысткі радоў партыі, значна дапамагла калгаснікам у размеркаванні прыбыткаў, а потым у падрыхтоўцы і правядзенні сяўбы. Друкаваная і ілюстраваная насценгазета, якая выдаецца ў некалькіх дзесятках экземпляраў, расклейваецца на сценах у калгасах зоны

МТС. Яна згуртоўвае вакол сябе рабсель-корэўскі актыў і дапаўняе ў рабоце па-літаддзельскую газету.

**270 рэдактароў калгасна-брыгадных газет** праслухалі курсы, арганізаваныя па ініцыятыве раённай газеты **«Колхозное знамя»** на Урале і палітаддзельскіх газет Шчучанскай і Пясчанскай МТС. Сярод скончыўшых курсы—40 проц. жанчын.

**13 семінараў селькораўскай вучобы** арганізавала ў Малавішэрскім раёне, Ленінградскай вобласці, раённая газета **«Большевик»**. 180 селькораў ахоплены зараз вучобай у семінарах. У горадзе працуе арганізаваны газетай семінар для рабкораў.

**9 друкаваных цэхавых газет** выходзяць зараз на горкаўскім аўтазаводзе. Апрача цэхавых выходзіць агульна-заводская друкаваная газета **«Авто-гигант»**.

## ШТО НОВАГА ў палітаддзельскім друку

**Аблігацыі сталінскай пазыкі соцыялістычнай жывёлагадоўлі** выдала гарадоцкая раённая газета **«Сталінскі заклік»**. Пазыка распаўсюджваецца сярод калгасніц раёна. Палітаддзельская газета, абвяшчаючы паход за соцыялістычную жывёлагадоўлю, дае спецыяльную старонку пад аншлагам:

«Таварышы калгаснікі, да вас наша палітаддзельскае слова! Канкрэтнымі справамі адказвайце на даклад правадыра. Заводзьце ў сваёй гаспадарцы авечак, парасят, трусоў, курэй, гусей, качак, захоўвайце цялят!»

Такія-ж аблігацыі пазыкі соцыялістычнай жывёлагадоўлі выдала і боркавіцкая палітаддзельская газета **«Палітэддзельская звязда»**.

**«Ленінскі шлях»** — газета палітаддзела Лельчыцкай МТС — адзначае ў дэкадніку друку свой поўгадовы юбілей. За 6 месяцаў работы палітаддзельская газета згуртавала вакол сябе 74 селькораў, змясціла на сваіх старонках у 28 нумарах 223 селькораўскія пісьмы, дапамагла 28 калгасным брыгадам наладзіць рэгулярны выпуск насценгазет. За шэсць месяцаў у рэдакцыю палітаддзельскай газеты паступіла 327 пісем і звыш 200 вусных карэспандэнцый-заяў.

**«Сцяг Леніна»** — газета палітаддзела Магілеўскай МТС — друкуе старонку аб рабоце нізавога калгаснага друку. Газета друкуе самаабавязацельствы сабраўшыхся на семінар селькораў і членаў рэдкалегій калгасных насценгазет Цішоўскага сельсовета, расказвае аб рабоце па выпуску брыгадных калгасных насценгазет, якую праводзяць на палях сяўбы практыканты-студэнты магілеўскага палітасветтэхнікума.

**Конкурс на лепшую калгасную і брыгадную насценгазету** і газету жывёлагадоўчай фермы праводзіць лельчыцкая палітаддзельская газета **«Ленінскі шлях»**.

## ПЯПЯРЭДЖАННЕ.

*З газеты „Красная звезда“.*

*Рыс. Бар. Ефімава*



«... Каб у далейшым не павадна было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод“.

*З газеты „Комсамольская правда“.*

„... Адзін тып работнікаў—гэта людзі з вядомымі заслугамі ў мінулым, людзі, стаўшыя вельможамі, людзі, якія лічаць, што партыйныя і совецкія законы пісаны не для іх, а для дурняў“.

**(З даклада т. СТАЛІНА на XVII з'ездзе ВКП(б)).**




## БАЛБАТУН І ЯГО МАШТАБЫ

„Вось вам фізіяномія балбатуна, яны мабілізаваліся, паставілі пытанне рубам, у іх і пералом, і зрухі, а справа не рушыцца з месца... Як быць з гэтымі невыправімымі балбатунамі? Калі-ж іх паднімуць на апаратыўнай рабоце, яны здольны патапіць любую справу ў патоку вадзяністых і бясконцых прамоў“.

**(СТАЛІН).**



## СУЧАСНЫЯ ДОН-КІХОТЫ.

„Вядома смешна і забаўна, што гэтыя людзі, няздольныя наладзіць прасцейшую справу совецкага гандлю, балбочуць аб сваёй гатоўнасці наладзіць больш складаную і цяжкую справу прамога прадукта абмену. Але Дон-Кіхоты таму і называюцца Дон-Кіхотамі, што яны пазбаўлены элементарнага пачуцця жыцця“.

**(СТАЛІН).**



# ЗМЕСТ

*Цана 50 кап.*

**АДКРЫТА ПАДПІСКА НА двухтыднёвы ЖУРНАЛ**

# „Большэвіцкі Друк“

**ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б**

Журнал разлічан па партыйны актыў, работвікаў райкомаў і гаркомаў цэнтральных, раённых, гарадскіх, палітаддзельскіх, фабрычна-заводскіх і транспартных газет і рабселькораў-ударнікаў БССР.

Задача журнала: кіраўніцтва друкам і дапамога ў рабоце газет, кіраўніцтва рабселькораўскім рухам.

Асноўны змест журнала: пытанні партыйнага кіраўніцтва друкам, агляды друку і распрацоўка розных пытанняў работы газет (формы і метады масавай работы газет, пытанні падрыхтоўкі кадраў, арганізацыя работы ўнутры рэдакцыі і т. д.).

**Для рэдакцый раённых, фабрычна-заводскіх, транспартных і палітаддзельскіх газет рэдакцыяй журнала выдаецца**

## СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ЎКЛАДКА—ПРЭС-БЮЛЕТЭНЬ

артыкульных матэрыялаў для скарыстання газетамі. Прэс-бюлетэнь выходзіць 6 раз у месяц

## ЗМЕСТ ПРЭС-БЮЛЕТЭНЯ:

а) артыкулы, якія растлумачваюць важнейшыя пастановы ЦК ВКП(б), ЦК КП(б)Б, СНК СССР, СНК БССР;
б) прапагандысцкі матэрыял па вузлавых пытаннях палітыкі партыі, на пытаннях гісторыі, стратэгіі і тактыкі большэвізма;
в) асноўныя матэрыялы для правядзення найбольш важных гістарычных дат і кампаній
г) артыкулы аб важнейшых падзеях міжнароднага жыцця, асабліва Польшчы і Заходняй Беларусі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА: **на год — 12 руб., на 6 мес.—6 руб., на 3 мес. — 3 руб., на 1 мес.—1 руб.**

**Падпісная плата: на ЖУРНАЛ РАЗАМ З ПРЭС-БЮЛЕТЭНЕМ: для раённых і транспартных газет—75 руб., для фабрычна-заводскіх і палітаддзельскіх—40 руб. у год.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленнях БССР і ў лістаносцаў.

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА І РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 63.**
**Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“.**

Менск, друкарня «Звязды» Уп. Галоўлітбела № К—3066.